# Ніва

ISSN 0546—1966
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 4 (1498) ГОД XXX БЕЛАСТОК 27 СТУДЗЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.




Гайнаўка знаходзіцца па-суседску з Белавежскай пушчай і таму так дбайна трэба тут сцерагчы прыгажосць акружаючай прыроды.

## ...ПЛЮС 50 ТЫСЯЧ

**У 1995 годзе ў межах цяперашняй Беласточчыны будзе нас 705-710 тысяч чалавек. На 40-50 тысяч больш, чым цяпер.**

Гэтыя павучальныя цыфры запісаў я ў свой блакнот у час сустрэчы з інжынерам-архітэктарам **Леанардам Будрыкам,** дырэктарам **аддзела урбаністыкі** Ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку. Інжынер Л. Будрык у час чарговай прэс-канферэнцыі ў беластоцкага ваяводы (яны адбываюцца ў кожную пятніцу) інфармаваў журналістаў аб працы падначаленага яму аддзела.

Ад 1 студзеня 1985 года абавязвае новая сеймавая пастанова аб урбаністычным планаванні і прасторнай забудове краіны. Дае яна даволі шырокія правамоцтвы гмінным і ваяводскім архітэктурна-будаўнічым службам. Вядома, што без згоды архітэктурна-будаўнічай службы нельга збудаваць нават нужніка на ўласным панадворку. Значыць, ад рашэнняў людзей з гэтай службы ў значнай ступені залежыць таксама выгляд Беластоцкага ваяводства. Такіх рашэнняў кожны год нашы „будаўлянцы“ прымаюць тысячы. Дырэктар Л. Будрык даволі высока ацэньвае прафесіянальную падрыхтоўку і добрасумленную працу падначаленых яму людзей, а на доказ прыводзіць наступны прыклад: у мінулым годзе ў галоўным адміністрацыйным судзе было заскаржана 130 рашэнняў архітэктурна-будаўнічай службы з Беластоцкага ваяводства і толькі ў некалькіх справах суд знайшоў аснову, каб змяніць рашэнне.

Чым жа тады ў асноўным займалася наша „архітэктура“, як па традыцыі людзі ў нас называюць тыя звенні гміннай і ваяводскай адміністрацыі, якія займаюцца будаўнічымі справамі.

— Перш за ўсё, — кажа інжынер Л. Будрык, — займаліся мы распрацоўкай агульнага прасторнага загаспадарання Беластоцкага ваяводства і паасобных яго раёнаў, у тым ліку — усіх гмін і гарадоў. Зараз амаль усе гміны маюць падрыхтаваны план прасторнай разбудовы і выкарыстання зямельных угоддзяў і няўгоддзяў. У гэтых распрацоўках асаблівую ўвагу перш за ўсё звярталі мы на тое. каб да неабходнасці абмежаваць выкарыстанне высокаўраджайнай зямлі пад якую-колеч забудову, каб як мага менш знішчыць зеляніны і лесу.

Зараз завяршаецца праца амаль над 30 планамі падрабязнага загаспадарання паасобных раёнаў і гмін. Дзеля прыкладу, інжынер Л. Будрык назваў такія пабудовы, як **чыгуначныя станцыі ў Гайнаўцы і Чаромсе.** У Гайнаўцы станцыя ўжо будуецца, а чаромхаўская знаходзіцца на этапе падрыхтоўкі. Мае гэта быць вялікі і прыгожы будынак, такі, які проста выпадае мець на дзяржаўнай мяжы.

Я крыху памятаю яшчэ даваенную чыгуначную станцыю ў Чаромсе. Быў гэта даволі прасторны і прыгожы будынак, які гітлераўцы падарвалі на некалькі гадзін да прыходу Савецкай Арміі летам 1944 года. Будаўнічыя атрады Савецкай Арміі зараз жа побач развалін мураванай станцыі пабудавалі драўляны барак, які і дагэтуль служыць пасажырам, хаця даўно ўжо сыплецца з яго парахно. Таксама было і ў Гайнаўцы. У чарзе яшчэ астаецца Бельск і ваяводскі Беласток, дзе распачатая пабудова чыгуначнага вакзала была спынена па прычыне недахопу сродкаў.

Варта яшчэ на хвіліну спыніцца ў Гайнаўцы. Выдадзена рашэнне на разбудову Гайнаўскай бальніцы, якая знаходзіцца на ўскраіне горада (як у чэшскім шматсерыйным фільме) і на загаспадаранне плошчы (у цэнтры горада), пакінутай дрэваапрацоўчым камбінатам, дзе

(Працяг на стар. 4)

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## ГАРАДЗІШЧАНЕ

Пачынаць знаёміцца з гэтай мясцовасцю (распаложана яна ў чатырох-пяці кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Дубровы Беластоцкай, зараз жа за Ружанастокам) трэба ад таго, ад чаго паходзіць яе назва. А тая павялася ад гарадзішча з X—XIII ст.ст., якое ўзвышаецца на стромкім паўднёвым беразе безыменнага ручая — левага прытоку рэчкі Сідры (таксама левага прытоку ракі Бебжы). Гарадзішча тут завуць Замчыскам, Шведскімі валамі. Гісторыкі мяркуюць, што гэта рэштка адной са шматлікіх крэпасцяў з часоў Гарадзенскага княства. Вацлаў Мезянко, які на ўсходняй ускраіне гарадзішча, раскапаўшы частку высокага на 5-6 метраў падвойнага абарончага вала, паставіў тут хату, хлявы, клуню і іншыя гаспадарчыя будынкі, а на колішнім крэпасным дзядзінцы выкапаў склеп і ямы на бульбу і гародніну, згадвае, што падчас раскопвання натыкаўся на абгарэлыя аграмадныя бярвенні, знайшоў незаржавелае („быццам учора закапанае“) вастрыё кап'я, некалькі заіржавелых наканечнікаў стрэлаў, аленевыя рогі. Хоць навуковаму свету гэтае гарадзішча вядома ўжо амаль сто год, аднак яно ўсё яшчэ не дачакалася археалагічных даследаванняў. А ўжо па знешняму яго выгляду і знаходках можна сцвердзіць, што гэтая крэпасць была важным умацаваннем (памеры дзядзінца каля 60x50 метраў) у абарончай сістэме старажытнага Гарадзенскага княства. Мабыць, на высокім полі, што ад усходу прылягае да гарадзішча, знаходзілася паселішча, у якім жылі сяляне, рамеснікі, гандляры. Варта дадаць, што гарадзішча распаложана каля старажытнага тракту з Горадні на Візну. Крэпасць і паселішча пры ёй загінула, відаць, недзе ў XIII ст., калі землі Гарадзенскага княства сталі арэнай працяглых войнаў паміж гарадзенскімі, навагародскімі, літоўскімі і валынска-галіцкімі, мазавецкімі князямі з удзелам спачатку палавецкіх, а затым татарскіх ордаў. Пасля тут тапталіся не меней знішчальныя крыжацкія „рэйзы“ і ў выніку людскія паселішчы сталі надта ж рэдкімі. Усё ж пустэча на гэтых землях не запанавала, як таго хочуць некаторыя гісторыкі.

(Працяг на стар. 4)

**НА МЯЖЫ**

# АБ НАПОРЫСТАСЦІ

У першую нядзелю чэрвеня, калі я знаходзіўся ў Бандарах, нечакана адкрыліся дзверы хаты і ўвайшла пара маладых, прыгожа апранутых людзей: дзяўчына і хлопец. Увайшоўшы ў хату, дзяўчына заявіла, што яны з'яўляюцца прадстаўнікамі нейкай рэлігійнай секты. Не чакаючы запрашэння, маладыя людзі селі і даволі катэгарычным тонам пачалі выкладаць філасофію свайго веравызнання. Уся мая радня, а было ў хаце пяць чалавек, кінулася з хаты на панадворак і пакінула мяне самотнага як палец Божы на полі бою.

Маладыя людзі ўвогуле не звярталі ўвагі на такое масавае дэзерцірства гаспадароў і ўсю энергію скіравалі на мяне. Выказалі мне тысячы слоў і досыць цяжка было б даслоўна паўтарыць сказанае. Аднак можна прыгадаць галоўныя іх тэзісы. Вось яны:

— Усе рэлігіі і веравызнанні, якія існуюць па-за іх сектай — фальшывыя і бяспраўныя.

— Яны не толькі не створаны з праўдзівай Божай інспірацыі, але з'яўляюцца запярэчаннем і абсурдным вывіхам гэтай інспірацыі.

— Бог, нягледзячы на тое, што ўсе гэтыя рэлігіі з'яўляюцца запярэчаннем яго аўтэнтычных інтэнцый, талеруе іх, бо верыць, што людзі, якія належаць да гэтых веравызнанняў, у канцы канцоў зразумеюць сваю памылку, адкінуць фальшывыя рэлігіі і далучацца да адзінай правільнай, якую прадстаўляе іх веравызнанне.

— Духоўныя ўсіх рэлігій вялікія фальсіфікатары. Іх злачынствы заключаюцца галоўным чынам у тым, што яны з поўнай свядомасцю фальшуюць святое пісанне, Біблію. Замест таго, каб кіравацца аўтэнтычным тэкстам свяшчэннай кнігі, дэфармуюць яе і дапасоўваюць да сваіх эгаістычных інтарэсаў.

— Іх веравызнанне не дэфарматар свяшчэннага пісання. Яно адзінае праведнае, якое кіруецца ўсімі яго аўтэнтычнымі прынцыпамі і наказамі.

— Сцверджанні вучоных аб тым, што чалавек існуе на зямлі мільёны год, абсурдныя. Чалавек на зямлі існуе роўна сем тысяч гадоў.

Я спытаў гасцей, ці, на іх думку, хрысціянская ідэалогія не ўзмоцнілася б, калі б з Бібліі выкрэслілі такія мала пераканаўчыя сцэны, як манна з неба, расступенне мора перад яўрэйскімі вандроўцамі, уступленні сатанічных сіл у чараду свіней. Госці катэгарычна сцвердзілі, што ўсё гэта сапраўднае і рэальнае і сумненні ў гэтай матэрыі з'яўляюцца формай маральнага злачынства.

На пытанне, ад калі існуе іх арыентацыя як рэлігійная плынь, я атрымаў адказ, што афіцыйна і фармальна існуе ад

**(Працяг на стар. 6)**

# НІЧОГА ЯГОНАГА НЕ ПАМЕРЛА

Напісалі: трэцяга лістапада пахаваны Пётра Сергіевіч, на вайсковых могілках у Вільні.

* ✲ *

Адыйшоў з гэтага свету яшчэ адзін выдатны беларус, пакідаючы па сабе добрую памяць і айчынную легенду. Як у імгле, бачнае мне цяпер маё асабістае знаёмства з ім, у першае сваё замежнае падарожжа неяк улетку пяцьдзесят сёмага. Я быў замалады і дакладна недавучаны, каб цалкам зразумець той шанц, спасланы мне лёсам, менавіта сустрэчу з вядомым мастаком Пётрай Сергіевічам. Звадзіў мяне да яго нябожчык Янка Шутовіч, наколькі не забыўся я, — постаць не меней вартая асобнага вопісу ў заходнебеларускім летапісе.

Мяне, свежаспечанага журналіста пачынаючай „Нівы", выпраўлялі ў дарогу тадышнюю без асаблівых наказаў, аднак жа пра іх двух я, відаць, сёетое ўжо чуў. Вільня, памятаю, аказалася Вільнюсам з неславянскай гаманою ды незразумелымі лацінскімі літаразлучэннямі на неонах і шыльдах казённых дамоў. На двары ўстаялася спякотная пагода і я выпрасіў у Шутовіча схадзіць на рэчку пакупацца, у Віліі-Нярыс... Трохі апісаў я быў потым тыя свае ўражанні ад віленскіх завулкаў, у „Ніве" надрукаваў, але сумысна не вяртаюся я да іх сёння, каб застацца з тым, што ўцалела ўва мне самім пасля стольскіх гадоў (больш чвэрці стагоддзя).

Усё тое маё знаходжанне ў Вільні адчуваю і разумею цяпер як рыхтаванне да візіту ў Пётры Сергіевіча, мастака, пра значэнне якога ў беларускай культуры я, юнак на дваццаць першым годзе свайго жыцця, не надта ўяўляў сабе. У сонечны полудзень, бадай, апынуліся мы. я з Шутовічам, перад высокімі дзвярыма старамоднай кватэры. Прывітала нас жанчына з манерамі патомнай інтэлігенткі, спадарыня Сергіевічыха. Сам гаспадар з'явіўся неўзабаве, нейкі хатні ўвесь, гледзячы на яго мелася ўражанне, што гэты чалавек ніколі не сварыўся і ні разу не павысіў голасу, ціхі і мяккі. Шутовіч, які мне, беластоцкаму дзікуну, страшэнна імпанаваў сваёй беларускай культурнасцю, тут стаў як бы ў цень. Чай гаспадыні так і не дапіў я, проста аглушаны асабовасцю Пётры Сергіевіча, настроем мастацкай яго майстроўні, вялізнымі карцінамі (ад якіх патыхала перапаленым алеем). Ніколі дагэтуль не маючы сутыку з творцам культурных каштоўнасцяў, я пачуваўся, бы ў святым месцы. Ясная справа, адразу праявіўся ў мяне „комплекс халопа на паркетах", — намагаючыся на ўдумныя грымасы твару перад карцінамі са Скарынаю, Каліноўскім, Багушэвічам, перад партрэтамі ды пейзажамі. Слухаў Сергіевічавых тлумачэнняў з адной галоўнаю мне ўвагаю, каб у адпаведны момант падтакнуць яму (напрыклад: „ну, вядома", „ах-ах", „надзвычайна"). Думаю, што ён хутка скеміў маю нулявую вартасць тады, гэты з найадукаваных людзей у даваеннай Заходняй Беларусі, адэпт мастацкіх навук у Польшчы, Італіі, Аўстрыі (раўняцца з ім маглі толькі лічаныя дзеячы накшталт Тарашкевіча ці Дварчаніна). Пры санацыі ён таленту свайго не прадаў узамен за выгоднейшае бытаванне, заядла трымаўся беларускасці, і гэтая яго мастацкая варта, някідкая ў вочы і няшумная ў вушы разыходзілася почутам у нашым народзе зусім не менш, чымсьці трыбунныя выступленні чыесьці або стрэлы ў здраднікаў. Апроч ваёўнікаў, кожнаму вызваленню патрэбны і мастакі, і паэты душы, без якіх не прычакаць снёных вынікаў барацьбы.

І так, як праз усе гады свае ходзім мы з першым смакам хлеба ў вуснах ці з першым каханнем у сэрцы, — мне заўсёды паўстае ўваччу Сергіевічава майстроўня, калі заходжу я ў карцінную галерэю ў Беластоку, Варшаве, Мінску або ў Лондане. Гэта так. А яшчэ даў ён мне тую тугу за веліччу гістарычнага мінулага Беларусі (педагогі даўно запрыкмецілі, што можна нічагуткі не зразумець з убачанага, але калі яно само сабою вялікае, дык нешта ад яго абавязкова застанецца ў пачуццях нашых як перадумовы думкі).

Сяджу я вось у сваім доме, нікуды носа не высоўваючы, ды ў сумным задуменні праглядаю рэпрадукцыі работы Пётры Сергіевіча. Выклікаюць яны з далячыняў часу забытыя эпізоды і загаслыя або па-іншаму пераствораныя эмоцыі, паняцці, як у таго, хто жыў, аднак, не толькі дзеля хлеба аднаго. У іхнай непрэтэнцыёзнай мастацкасці на ўзроўні строгага рэалізму ёсць тое дадатковае „нешта". Я б сказаў: грамадзянскасць уздзеяння на гледача. Прыглядаюся я і да фотак з лістападаўскага пахавання, гэткіх па-аматарскаму шэрых і непрыдатных таму ў газету. На іх пазнаю я ўдзельнікаў жалобнага таго рытуалу — Марачкіна, Куліка, Купаву... Хто гэта? — запытае чытач. Гэта, адказваю, мастакоўская моладзь, да якой належыць заўтрашняе беларускага жывапісу, графікі, скульптуры. Яны, аказваецца, прывандравалі ажно з Мінска, каб праводзіць у апошні шлях свайго Пётру Сергіевіча.

Разам са смерцю яго нічога ягонага не памерла!

**Сакрат Яновіч**




### НА ПАЛЯХ АМЕРЫКАНСКІХ ФЕРМЕРАЎ

Растучым попытам карыстаецца ў амерыканскіх фермераў савецкі трактар „Беларусь" мінскага завода.

Паводле слоў Р. Райэлса, аднаго з кіраўнікоў „Беларус машынеры інк" — кампаніі, якая купляе савецкія трактары, — сакрэт іх поспеху ў надзейнасці, простаце канструкцыі і даступнай для фермераў цане. Як паведаміў Л. Грэйвс, прэзідэнт „Трактар сентэр" у Слайдэлі (штат Луізіяна), які адным з першых пачаў набываць мінскія трактары, за апошнія дзесяць гадоў аб'ём іх закупак і продажу яго фірмай павялічыліся ў тры разы. Ён даў высокую ацэнку тэхнічнаму абслугоўванню трактароў, якое праводзяць савецкія спецыялісты.

Распаўсюджваннем савецкіх трактароў у ЗША займаюцца 145 гандлёвых прадпрыемстваў, і колькасць іх з кожным годам расце, адзначае інфармацыйнае агенцтва АП. „Беларусь" здабыла давер'е і прызнанне фермераў і карыстаецца цяпер вялікай папулярнасцю.

### ПОШУК ПА ПРАГРАМЕ „ЭНЕРГІЯ"

Не атмасферу, а жылыя дамы ў адным з мікраараёнаў горада стаў ацяпляць кавальскі цэх завода „Гомсельмаш". Знайсці практычнае прымяненне гарачым газам работнікам вытворчасці памаглі вучоныя філіяла Беларускага навукова-даследчага энергетычнага інстытута імя Кржыжаноўскага. Яны распрацавалі арыгінальную цеплаабменную ўстаноўку, якая дазволіла зняць вялікую частку нагрузкі з заводскай кацельнай і сэканоміць дзесяткі тысяч кубаметраў прыроднага газу.

Новыя ўстаноўкі ўжо прымяняюцца на прадпрыемствах рэспублікі.

Паскораная распрацоўка і ўкараненне канструкцый для выкарыстання паўторных энергарэсурсаў прадугледжаны мінскай гарадской праграмай „Энергія".

### СПОРТ

■ У канадскім горадзе Таронта праведзены міжнародныя спаборніцтвы штангістаў суперцяжкай вагі.

Усе прызавыя месцы занялі савецкія цяжкаатлеты. Перамог беларускі спартсмен Аляксандр Курловіч.

Ветэран спорту мінчанін Руслан Дзю стаў пераможцам Кубка СССР сярод штангістаў катэгорыі да 56 кілаграмаў.

■ Зборная СССР па гандболу стала пераможцай міжнароднага турніру на прыз газеты „Заря Востока". Яна выйграла ўсе сустрэчы.

Удала на гэтых спаборніцтвах у складзе каманды СССР выступіў мінчанін Юрый Шаўцоў.

■ Мінская хакейная каманда „Юнацтва" прымала равеснікаў са зборнай Польшчы.

Цікавая гульня завяршылася з лікам 4:2 на карысць беларускіх спартсменаў.

■ Усесаюзны турнір па акрабатыцы прайшоў у Мурманску.

Упэўненую перамогу на ім атрымаў мінчанін Мікалай Паўлючэнкаў. Ён адзіны з усіх удзельнікаў спаборніцтваў выканаў трайное сальта, за што атрымаў максімальную колькасць балаў — 10.

■ Мацнейшыя дваяборцы краіны правялі ўсесаюзныя спаборніцтвы, якія з'яўляюцца першым адборным этапам да чэмпіяната свету.

Беларускі спартсмен Аляксандр Пектубаеў асабліва добра выступіў у лыжнай гонцы на 15 кіламетраў, што дазволіла яму ў агульным заліку заняць другое месца.

■ Турнір па барацьбе дзюдо, прысвечаны памяці Героя Савецкага Саюза Васіля Казлова і 40-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, прайшоў у Мінску.

За перамогу змагаліся больш 150 спартсменаў з многіх гарадоў краіны. У вагавой катэгорыі да 60 кілаграмаў поспеху дамагліся барцы Беларусі. Першае і другое месца занялі Уладзімір Свірскі і Сяргей Корзун адпаведна.

Побач з сур'ёзнай плынню фальклорных хрысцінных песень выступае ў іх таксама плынь гумарыстычная. Варта тут прывесці шырока папулярную песню (між іншым, у вёсках гміны Нараўка), якая дасканала ілюструе свабодную хрысцінную атмасферу.

Чы я табе не казала,
Чы не гаварыла,
Не легай разом спаці,
Бо будзе Гаўрыла.
А ты мане не пытаў,
Кала мане клаўса,
А цепэр пытаешса,
Скуль Гаўрыла ўзяўса.
А ты мане не пытай,
Біжы за кумамі,
Бо Гаўрыла на пэчы
Совае нагамі.

З фармальнага характару песні вынікае, што спявае яе жонка і кіруе ў адрас свайго мужа. У сапраўднасці, аднак, гэту песню спяваюць сабраныя госці з той мэтай, каб дакучыць парадусе, а перш за ўсё яе мужу. Трэба ўсё ж сказаць, што незалежна ад таго, як вострыя і крытычныя былі намёкі, скіраваныя ў адрас мужа ці жонкі, не маглі яны гневацца ці абражацца. Наадварот, мусілі шчыра не толькі адабраць усё гэта, але і ствараць свабодную, нічым не абмежаваную атмасферу.

Калі гаворым аб гумарыстычнай плыні ў хрысцінным фальклоры, дык трэба падкрэсліць, што звязана яна галоўным чынам не з бацькамі дзіцяці, а з постацю кума і асабліва кумы. Трэба падкрэсліць, што ў істоце ўсе грахі, недахопы, схільнасці, характэрныя для чалавечай натуры, прыпісваюцца перш за ўсё куме, якая становіцца свайго роду сімвалам недасканаласці і грэху.

Вось два куплеты з вёскі Янова:

Кума моя, кума любленая,
Чом у тэбэ сорочына
Не подрубленая?
Сухе лето было,
Льну не подлівало.
Сорочына до колен,
Рукавоў не стало.

* ✻ *

Я кілішок выпіла,
По столе покотіла,
Я такі звычай маю,
Што до дна выпіваю.
Ой, выпіла, покотіла,

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Сама сэбэ похваліла,
Ой, я добраго роду,
П'ю га[illegible]лку, як воду.

Не м[illegible] цікавасць прадстаўля[illegible]леты, запісаныя ў вёска[illegible]ёна Сідры.

* ✻ *

Прышоў кум до кумы,
Кума грэчку поле.
— Добрэ, кумэ, што прышоў,
Мой пашоў на поле.

* ✻ *

Прышоў кум до кумы,
Кума мые ложкі.
— Кідай, кума, ложкі,
Пагуляем трошкі.

* ✻ *

Прышоў кум до кумы,
Пазычыці бараны.
Кума ногу падняла:
— Ото, куме, барана!

* ✻ *

Напіліся гарэлачкі,
Напіліся мёду
За таго салаўя,
Што ў кума з перэду.
Напіліся гарэлачкі,
Напіліся мёду
То за тую ластаўку,
Што ў кумы з перэду.

* ✻ *

Ой выпіла, выхіліла,
Сама сябе похваліла,
— Я з хорошаго роду,
П'ю гарэлку, як воду.

Бадай што найбольш пашырана на ўсёй усходняй Беласточчыне песня, якая пачынаецца ад слоў:

Ой, куме, куме, добра гарэлка,
Будземо піці да панедзелка...

Складаецца яна з сямі строф, у кожнай з гэтых строф гаворыцца аб неабходнасці піць гарэлку ва ўсе дні тыдня.

Усе прыведзеныя тэксты даюць куме і куму не надта добрую характарыстыку. Але якраз такія песні дамінуюць у хрысцінным фальклоры. Са сказанага не вынікае, што няма ў ім увогуле тэкстаў, якія паказвалі б кумоў у станоўчым асвятленні. Прыхільную да кумы інтанацыю знаходзім, напрыклад, у песні з вёскі Пагарэльцы:

Кума на куце села,
Харошу песню спела.
Пэршу — хрышчону,
Другую — васельну:
Ой дай Божа дзіцяці
Да васеля даждаці.

**А. Баршчэўскі**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Edward Więcko — Początki organizacji i działalności administracji leśnej w białostockim Okręgu Lasów Państwowych po II wojnie światowej. „Las Polski" (W-wa), R. 1984, Nr 1, s. 30; Nr 2, s. 31—32.

(P.B.) — Przyszłość turystyki w Puszczy Białowieskiej. „Las Polski", R. 1984, Nr 4, s. 36.

Mirosław Sobkowiak — Leśny nauczyciel (Jan Kozak z Białowieży). „Las Polski". R. 1984, Nr 10, s. 3—4.

Simona Kossak — Jak zmniejszyć szkody w Puszczy Białowieskiej wyrządzone przez zwierzynę. „Las Polski", R. 1984, Nr 10, s. 21—23.

Bolesław Zabielski — Stan zapasu Puszczy Białowieskiej i możliwości jego stopniowego podwyższania. „Sylwan" (W-wa), R. 1984, Nr 3, s. 1—8.

Bazyli Tichoniuk — Flora w nazewnictwie Puszczy Białowieskiej. Zeszyty Naukowe Wyższej Szkoły Pedagogicznej w Opolu, Seria A. Filologia Rosyjska, T. XXIII (1983 r.), s. 161—170.

Krzysztof Wołk — Porównanie ugrupowań ptaków jesienią w grądzie i borze Białowieskiego Parku Narodowego. „Notatki Ornitologiczne" (Wrocław), R. 1982 Nr 1—4, s. 55—64.

Lechosław Herz — „Żebra żubra" (szlaki turystyczne w Białowieży). „Gościniec" (W-wa), R. 1984, Nr 10, s. 19—20

Jolanta Krysowata — Nie mylić kruka z sikorką (obóz dla miłośników przyrody w Białowieży). „Walka Młodych" (W-wa), R. 1984, Nr 33, s. 18.

Krzysztof Wolfram — Puszcza Knyszyńska. „Przyroda Polska", (W-wa), R. 1984, Nr 9, s. 23—25.

**П. Байко**

## Этнаграфічнае акенца



Вулей-дупляч на сасне за клуняю Казіміра Русіловіча ў Гарандах пад Нарвай. Фота М. Гайдука.

**СЛАВУТЫЯ БЕЛАРУСЫ**

# ПАДЗЯКА СУЧАСНІКАЎ І НАШЧАДКАЎ

Адначасова з Т. Занам на Урал саслалі і другога арганізатара маладзёжных гурткоў Літвы і Беларусі — Яна Чачота. Згодна з дакументам, выяўленым намі ў „Справе аб дваранстве Чачотаў" у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве СССР у Ленінградзе, ён нарадзіўся 17 ліпеня 1796 года ў засценку Малюшыцы Навагрудскага павета ў сям'і дробнага двараніна, які арандаваў чужыя маёнткі. Вучыўся ён у дамініканскай школе ў Навагрудку разам з будучым геніем літаратуры, таксама навагрудчанінам Адамам Міцкевічам, потым у 1815 годзе яны паступілі ў Віленскі універсітэт.

Гэта пра іх успамінае ў канцы жыцця іх зямляк Ігнат Дамейка: „Два нашы студэнты навагрудскай школы з малых гадоў добра ведалі наш літоўскі (беларускі — В. Г.) народ, любілі яго песні, праніκліся яго духам і паэзіяй... чаму, відаць, садзейнічала і тое, што невялікае мястэчка Навагрудак мала адрознівалася ад нашых вёсак і засценкаў. Школьнае жыццё было, па сутнасці, сельскім. Сябры хадзілі па кірмашах, бывалі на сялянскіх вяселлях, дажынках і пахаваннях. Яшчэ ў школе народная песня нарадзіла ў сяброў першае паэтычнае натхненне..."

Магутны ўздым грамадскай самасвядомасці ахапіў пасля падаўлення царскім самадзяржаўем паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі шырокія слаі насельніцтва Літвы і Беларусі. Культурным цэнтрам гэтых земель быў Віленскі універсітэт, які называлі „паўночнымі Афінамі". Ідэі „веку Асветы" атрымлівалі дастатковы рэзананс з-за нарастання крызісу прыгонніцкіх адносін; узмацняліся класавыя супярэчнасці, расслайвалася дваранства, узмацнялася супраціўленне шавіністычнай палітыцы царызму.

Сярод віленскай моладзі ўзніклі тайныя таварыствы. На адным з іх пасяджэнняў Я. Чачот гаварыў: „Ні асвета краіны, ні земляробства не могуць рухацца такім крокам наперад, пакуль не будзе знішчана існаваўшая многія стагоддзі перашкода — няволя сялян, такая чужая натуральнаму праву, здароваму розуму,... якая прыводзіць у сорам людскія сэрцы".

У 1823 годзе пачаліся павальныя арышты членаў таварыства. Царскі саноўнік Навасільцаў разграміў маладзёжны рух у Літве і Беларусі. Быў арыштаваны і Чачот. Саслалі яго ў Кізіл (сёння Кізільскае на крайнім поўдні цяперашняй Чэлябінскай вобласці), дзе ён правёў паўгода ў турме, а затым быў пераведзены ва Уфу. У шэрагу дакументаў фонду канцылярыі Арэнбургскага грамадзянскага губернатара за 1824-1830 гады, знойдзеных намі ў Цэнтраль-

(Працяг на стар. 7)

Новыя вершы

## МУЗЕЙНЫЯ ЭКСПАНАТЫ

Прыехаўшы да роднай хаты
(Што мне здараецца часамі),
Многа музейных экспанатаў
Яшчэ знаходжу сярод хламу

Угледзеў я старыя жорны,
Так сэрцу блізкія, вядома.
З татам у іх малоў я зёрны
Калісьці да апошняй стомы.

У клуні цэп злавіў вачыма
І разбудзіў яго з дрымоты.
Сняцца снапы яму, магчыма,
Што малацілі мы да поту.

Я серп у рукі ўзяў зублёны,
І ён, магчыма, сніць аб нечым.
З ім я выходзіў на загоны
І палец, помню, ім скалечыў.

Ды прывітаўся я з касою
З апушчаным ад суму носам.
Хадзілі мы на луг з расою,
Клалі духмяныя пракосы.

Не выкідай, мой мілы браце,
Сведкаў гаротнай маладосці,
Не зацірай слядоў юначых,
Калі юнацтва на пагосце.

## ВЕЛАСІПЕД

У свайго брата сярод хламу
Я экспанату ўгледзеў след,
Паўвеку маючую раму —
Калісьці мой веласіпед.

Стары быў, ды яшчэ талковы,
Прадаў яго сусед Максім
За нашу чорную карову,
У школу ездзіў я на ім.

Бывала, у гнілую восень,
Якіх было шмат у жыцці,
Татулька на плячы даносіў
Веласіпед мне да пуці.

І з хваляваннем я таксама
Узяў, як тата, на плячо
Старую дарагую раму...
Пачуўся зноў малым хлапчом.

**Віктар Швед**



**Прамысловасць у Гайнаўцы не толькі дае працу, але таксама, на жаль, атручвае асяроддзе.**

(Працяг са стар. 1)

будзе (між іншым) і **музей** матэрыяльнай культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

Гэтыя дзве пастановы беластоцкай „архітэктуры“, апрача звычайнага зацікаўлення, не выклікалі ў прысутных журналістаў ніякіх засцярог. Але дырэктар Л. Будрык назваў яшчэ адну пастанову — аб пабудове ў Гайнаўцы **гарадской ачышчальні** для камунальных сцёкаў. **Справа для прыпушчанскай Гайнаўкі незвычайнай важнасці!** Рака **Лясная Правая** ужо даўно ператварылася ў смярдзючую атручаную канаву, якая ў перыяд веснавога і асенняга навадненння або ў час летніх дажджоў разносіць свае нечысці па шырокай прасторы **Белавежскай пушчы.** 100 ці 200 гектараў (па-рознаму гэта ацэньваюць) старажытнага лесу пала ўжо ахвярай бёзадказнай дзейнасці чалавека. А Белавежская пушча, як **каштоўны помнік прыроды,** занесена ў рэестр **ЮНЕСКА.**

— Гэтая ачышчальня, — заяўляе інжынер Леанард Будрык, — прызначаецца толькі для ачысткі камунальных сцёкаў. Сцёкі ад фабрык яна не будзе прымаць!

Ну, і тут зашумела, бо вядома, што галоўным пастаўшчыкам атруты з'яўляецца ў Гайнаўцы **хімічная** фабрыка. Дык чаму ўлады горада не змаглі неяк дагаварыцца з гайнаўскімі прамысловымі прадпрыемствамі, каб супольнымі сіламі пабудаваць у Гайнаўцы настолькі магутную ачышчальню, якая змагла б абслугоўваць і камунальную гаспадарку і гайнаўскую прамысловасць?

— Гэта ўжо справа не нашай архітэктурна-будаўнічай службы, — заяўляе дырэктар Леанард Будрык. — Што мае быць

## ...ПЛЮС 50 ТЫСЯЧ

або чаго не мае быць у плане, вырашае зусім хто іншы. Адносна хімічнай фабрыкі ў Гайнаўцы, наколькі мне вядома, ёсць прапанова, каб спыніць працу тых яе тэхналагічных ліній, якія прадукуюць найбольш атруты.

Для гайнаўчан і для Белавежскай пушчы была б гэта шчаслівая развязка справы. Урэшце перасталі б людзі дыхаць смярдзючым паветрам. Мне, аднак, не хочацца верыць, каб было гэта рэальна. **Гайнаўскае прадпрыемства па сухой дыстыляцыі драўніны** — неадлучнае д з і ц ё самай жа Гайнаўкі. І горад і фабрыка раслі разам. Але гэта сентыменты, якія можна пераадолець, цяжэй будзе знайсці новую крыніцу для пастаўкі прадуктаў, якія дае краіне і на экспарт гайнаўская хімічная. А прадукты гэтыя выключнай важнасці!

Я абмежаваўся тут амаль выключна да праблем Гайнаўкі і Гайнаўшчыны. Але ў час сустрэчы з дырэктарам Л. Будрыкам гаварылася і аб многіх іншых праблемах. Цераз дзесяць гадоў насельніцтва Беластоцкага ваяводства павялічыцца на нейкіх 50 тысяч чалавек. Гэта больш чым зараз налічваецца жыхароў у Гайнаўцы і Бельску разам узятых. Ім трэба будзе недзе жыць і працаваць. Дагэтуль Беласточчына была пастаянным пастаўшчыком таннай рабочай сілы для іншых, болей загаспадараных раёнаў краіны. У наступнай дзесяцігодцы прадбачваецца спыненне эміграцыі за працай і лепшым жыццём. Вядома, не шляхам адміністрацыйнай забароны. Галоўную ролю маюць сыграць тут эканамічныя і сацыяльныя стымулы. Ужо цяпер наглядаецца нарастаючае зацікаўленне апрацоўкай зямлі. **Каб паглыбіць**

(Працяг на стар. 11)

## ГАРАДЗІШЧАНЕ

(Працяг са стар. 1)

**Са значна бліжэйшага да нас часу захаваліся пераказы, паводле якіх на месцы сённяшніх Гарадзішчаняў была вёска Табароўшчына. Захавальнік тутэйшай традыцыі, 60-гадовы Станіслаў Лабенец кажа, што ва ўрочышчы Радзівонавы Клінке, пры старым тракце з Гродна на Сухаволю, захаваліся прыкметы па фундаментах 15-20 хатаў (памерам каля 7х12 м) і аднаго вялікага будынка, мабыць, карчмы (15х30 м), каля якога была вялікая яма з розным смеццем і адпадкамі. Некалькі пакаленняў таму назад падчас пошасці (магчыма, эпідэміі халеры або тыфу) уся вёска вымерла. Застаўся адзін Карповіч, ён і перавазіў усіх гарадзішчан на ўрочышча Хвойнік, закопваў без трунаў па 5-6 мерцвякоў у адной магіле.**

Студзеньскае паўстанне 1863 г. пакінула пра сябе згадку, што царскія ўлады бясплатна раздавалі сялянам зямлю з навакольных канфіскаваных маёнткаў, уладальнікі якіх прынялі ўдзел у паўстанні або спрыялі паўстанцам. Было так, што ўдзень царскія чыноўнікі прымушалі браць зямлю, а ўночы паўстанцы пагражалі спаліць тых, хто пажанецца на іхні палетак. І сяляне, як маглі, пазбягалі браць зямлю, хоць ім аж вочы свяціліся, гледзячы на яе. Жандары ж лютавалі: хто адмаўляўся браць, таго катавалі нагайкамі. Ад іхніх пабояў памёр гарадзішчанін Міхалоўскі, а іншыя доўга хварэлі. Пра такія якраз канфіскаваныя маёнткі і фальваркі шляхты, якая сваім радаводам сягала колішніх баяраў Вялікага княства Літоўскага, захаваліся сляды ў назвах палеткаў і ўрочышчаў: Грэсеўшчына, Дзядзінец, Засценак, Радэччына. Іншыя назвы пераважна паказваюць або на прыродныя ўласцівасці месца, або на чалавечую ў ім дзейнасць: Асяроды, Выган, Вялікія Загоны, Гарамбінка, Даліна, Занерасное, Засідранскія Дарогі, Івашкава Гара, Кляшторныя Нівы, Лознікі, Малыя Загоны і інш.

Жылося на гэтых палетках бедна, асабліва пры цары. І таму людзі шукалі шчасця за акіянам. Займаліся вывазам у Амерыку тутэйшых пераважна юнакоў, але таксама і дзяўчат, розныя агенты. Гарадзішчан нелегальна „перакідваў“ праз рускапрускі кардон нейкі яўрэй Ёсель з Дубровы. Браў ён ад галавы аграмадную на тыя часы суму — аж 200 рублёў грашыма або ў векселях з двума паручыцелямі. Калі наступаў адпаведны момант, прыязджаў брычкай ноччу па хлапца ці дзяўчыну і колькі моцы ў конскіх нагах гнаўся праз Сухаволю ў Асавец. Шчасліва пераадолеўшы кантролю на граніцы, перадаваў ён сваіх кліентаў ужо нямецкаму агенту, а той вёз іх у Кенінгсберг або Гданьск на параход. Але ж здаралася даволі часта, што пагранічнікі не дазвалялі перайсці ў Прусію. Тады такі няўдачлівы эмігрант вяртаўся дахаты, а бацькі з курачкаю ці гусачкаю пад пахаю зноў беглі да таго ж Ёселя. Той войкаў, стагнаў, сварыўся, але курку перадаваў сваёй жонцы і загадваў рыхтавацца да выезду

# БЕЛЬСК СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ

Калі знаходзімся ў Бельску, асабліва ў цэнтры, не заўважаем, што ў горадзе шмат людзей, якія займаюцца сельскай гаспадаркай. А гарадскіх землеробаў у Бельску налічваецца не менш як у некаторых гмінах — іх тут аж 579. Звыш 10 гектараў маюць толькі 24 гаспадаркі, а 467 маюць усяго ад 0,5 да 5 гектараў зямельных угоддзяў і якраз у гэтай групе знаходзіцца большая частка землеробаў-рабочых.

Невялікія гаспадаркі, хаця спрыяюць павелічэнню сямейных бюджэтаў і аблягчаюць забеспячэнне горада харчамі, то з'яўляюцца некарыснымі ў сэнсе поўнай сельскагаспадарчай вытворчасці. Яны ў большасці не маюць сельскагаспадарчых машын і таму многія гаспадары змяншаюць колькасць ворнай зямлі на карысць зялёных угоддзяў, якіх і так ёсць больш ад патрэб аднаасобнай гаспадаркі. У гэтых гаспадарках таксама незадавальняюча выконваецца план выкарыстання мінеральных угнаенняў.

Агульная колькасць зямельных угоддзяў у Бельску 2745 га, у тым ліку ворнай зямлі 1433 га.

Пагалоўе жывёлы: буйнай рагатай жывёлы — 760 штук, у тым ліку кароў — 394; свінней — 1658, авечак — 480 (дадзеныя з чэрвеня 1984 г.) У параўнанні з 1983 годам, у 1984 годзе значна павялічылася колькасць свінней — аж на 344 штукі. Гэта вельмі карысная з'ява.

Гаспадары і гарадскія ўлады Бельска павінны імкнуцца да таго, каб гэтыя невялікія гаспадаркі давалі яшчэ больш прадукцыі, каб маглі больш карыстацца машынамі сельгасгурткоў, каб былі акружаны апекай сельскагаспадарчай службы.

**Міхась Хмялеўскі**




### ПАПАЛАСЯ
(сямейная)

П'еце, людзі, гарэліцу, а вы, гусі, — воду,
накажэце, белы гусі, аж да маго роду.*)
Ні кажэце, белы гусі, што я прападаю,
Но скажэце, белы гусі, што я тут гуляю.
Ой, вырву я з рожы кветку — пушчу я на воду:
— Плыві, плыві, з рожы кветка, аж да маго роду!
Плыла, плыла з рожы кветка, пад беражком стала —
вышла маці вады браці — кветачку пазнала.
— Чы ты, мае дзіця мілэ, сем нідзель ляжала,
што твая і з рожы кветка на вадзе завяла?
— Ні ляжала, мая мамко, ні дня, ні гадзіну —
папалася ў чужы людзі, у ліхую дружыну.

***) Парныя радкі паўтараюцца.**
*Ад Анны Валкавыцкай, 1915 года нараджэння, вёска Таніца гм. Міхалова, запісаў 21 жніўня 1983 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.*



Новае Ляўкова. Фота Я. Целушэцкага.




## У АБАРОНУ БЕЗАБАРОННЫХ

Ужо ў дзевятнаццатым стагоддзі рускі паэт напісаў: „Не мучь мухи, бо ей больно!“ Чуеце? А аб рыбе ніхто дагэтуль не падумаў. Не, я дрэнна сказаў. Мукамі рыбы ніхто не турбуецца, нікому галава не баліць.

Лоўлю рыб спортам называюць, аднаўленнем нервовай сістэмы. А як гэты „спорт“ і „аднаўленне“ выглядаюць? Прывязвае рыбак да жылкі кручок ці востры якарок і маніць імі галоднае стварэнне. А ці яно вінаватае, што галоднае, што такім яго змайстравала прырода? Беднае, глытае свой лёс, сваю згубу, а „спартсмен“ цешыцца, вырывае з нутра рыбінага сваю пастку і кідае параненага сабрата на пясок, або ў торбу. Мучся, чорт з табою, калі дурное.

Цешацца рыбакі сваёй крывавай здабычай, цешацца ёю і іх семі. Убачыўшы поўную торбу пакалечаных прашчураў чалавека, зайздросцяць рыбакам сустрэчныя прахожыя.

У маёй вёсцы гавораць: „Каму вяселле, а цялятку смерць“. Ды смерць цялятка (быка, вяпрука) больш гуманная. Толькі тады жывёліна мучыцца, калі нейкая разява замест у сэрца, уваб'е нож міма. Але наогул кожны робіць гэта спраўна.

З рыбай ніхто не цырымоніцца. Селядцоў ловяць тонамі і жывымі соляць. Яны паміраюць у мучэннях, а мы купляем іх і ласуемся. З прагнай думкай аб напаўненні сваіх трыбухоў, прэмся ў рыбныя магазіны, купляем карпа, які яшчэ пару дзён таму назад плаваў у рыбніку, кідаем у ванну, бо свята ідзе — хай будзе свежы. Той плавае, плавае і здыхае з галаду. А мы потым аблізваемся, смачны. Ніхто і не падумае аб гуманным падыходзе да жывой істоты.

Грамадзяне, калі выцягнеце рыбу з яе прыроднага асяроддзя — вады, канчайце яе адразу.

Прыемнага апетыту!

**Васіль Петручук**

брату ці сястры затрыманых. І праз нейкі час Ёсель імчаў у Асавец Юзіка з дакументамі непрапушчанага Казюка або Фэлю замест Рузі. Калі ім урэшце пашчасціла апынуцца ў Амерыцы, тады яны ўжо дапамагалі брату ці сястры выехаць і памяняцца дакументамі. Некаторым жа даводзілася ўсё жыццё пражыць пад чужым імем. Выязджала ж многа. У Гарадзішчанях не было такога роду, з якога хто-небудзь не падаваўся б за акіян. Бывала, што ў хаце застаўся толькі адзін за гаспадара, а іншыя сталі больш ці менш удачлівымі кліентамі Ёселя. Але калі ў 1929-1933 гадах Амерыку і іншыя заходнія краіны ахапіў вялікі крызіс, многія з іх вярнуліся ў родную вёску з пустымі рукамі.

У назвах частак вёскі: Груд, Канчане, Кашаварцы (на былых салдацкіх агародах), Пердзялева, Шляхта можна вычытаць не адно і пра паходжанне іхніх жыхароў (Шляхта) і пра іхні маёмасны стан (Пердзялева, Кашаварцы). Даўніна запісалася таксама і ў прозвішчах самых старых сялянскіх родаў гарадзішчан: Баранскі, Буднік, Грамко, Даўмонт, Дубоўскі, Дудзюк, Жыгаловіч, Карповіч, Лабенец, Ляскоўскі, Мезянко, Міхалоўскі, Радзівон, Сянкевіч, Ціневіч, Шоцкі, Янэчка. Звяліся роды Бялкоўскіх, Пастэўскіх, Якубеляў. Найболей жа ў Гарадзішчанях Буднікаў і Мезянкаў.

Вайна не абышла бокам Гарадзішчанаў. Многія прымалі ўдзел у вераснёўскай кампаніі 1939 г., служылі ў Савецкай Арміі і Войску Польскім. У Савецкай Арміі загінуў Вітальд Лабенец. Гітлераўцы расстралялі Сцяпана Ляскоўскага за тое, што пры савецкай уладзе працаваў у сельсавеце, а Дзмітрыя Гедзя ўкінулі ў лагер смерці, бо ён належаў да КПЗБ, і ён таксама загінуў. Трагічны лёс спаткаў сям'ю Філімановічаў. Маці была яўрэйкай, прыняла праваслаўнае веравызнанне, жыла і працавала, як усе тутэйшыя гаспадыні. Але ж аднаго дня прымчалася некалькі жандараў, схапілі яе і трох сыноў і павезлі ў Гродна. У гродзенскім гестапа на допытах жандар ударыў маці. Адзін з сыноў кінуўся на яго, выхапіў у яго з рук аўтамат і пусціў чаргу па жандарах. Здабыўшы болей зброі ў немцаў, Філімановічы доўга бараніліся, забілі некалькі фашыстаў. Аднак вырвацца з гестапа ім не ўдалося — усе яны загінулі.

У Гарадзішчанях здаўна высока цанілі адукацыю. Яшчэ да вайны з заможнай сям'і Пастаўскіх выйшлі: Юзаф — на агранома, Аляксандр — на інжынера, Ян — на фармацэўта, Браніслаў — на ксяндза. Наогул да 1939 г., асабліва з бяднейшых сем'яў, выйшла многа каталіцкіх духоўных: Казімір Буднік, Браніслаў Баранскі, Вацлаў Радзівон і іншыя. Францішак Сянкевіч вывучыўся на лекара. Гэтае імкненне да ведаў асабліва павялічылася пры народнай уладзе. Як пры цары не было хаты, з якой хто-небудзь не падаўся б за хлебам у Амерыку, так цяпер не знойдзеш такой сям'і, дзе б нехта не закончыў вышэйшай або сярэдняй школы і не працаваў на адказнай пасадзе: Раман Гуніцкі, Генрых і Станіслаў Дудзюкі, Галена Лабенец, Галіна і Тадэуш Сянкевічы — інжынеры самых разнастайных спецыяльнасцей, Ян Буднік — заатэхнік, Казімір Буднік — настаўнік. А ў Браніслава Будніка ўсе тры дачкі вышэйшыя школы закончылі. Многа моладзі і цяпер вучыцца, некаторыя ў сельскагаспадарчым тэхнікуме ў суседнім Ружанастоку з намерам не ўцякаць у далёкі свет, застацца на сваёй гаспадарцы.

Зямлю ж тут шануюць і цэняць — ніводная лапінка яе не ляжыць аблагом. У Гарадзішча-

(Працяг на стар. 6)

(Працяг са стар. 2)

# АБ НАПОРЫСТАСЦІ

1932 года, але ў сапраўднасці існуюць яны ад пачатку хрысціянства.

На маё пытанне — чаму Бог, ведаючы, што адзінай праведнай рэлігіяй з'яўляецца іх секта, дазваляе на існаванне соцень іншых рэлігійных арыентацый — госці выступілі з гарачай дэкларацыяй. Гаварыў найбольш хлопец. Даказваў, што Бог цярплівы і што даў чалавеку вольную волю і права на памылку. Аднак, усё тое зло, якое характарызавала і характарызуе чалавецтва, прымусіць Бога да катэгарычнай інтэрвенцыі. Усё зло, усе адступленні ад літары і духа Бібліі будуць сурова пакараны. Людзі яшчэ маюць час апамятацца, далучыцца да адзінай праведнай рэлігіі і такім чынам пазбегчы суровага пакарання і заслужыць на вечнае Божае царства.

Пасля гэтага я выказаў думку аб тым, што іх арганізацыя налічвае ва ўсім свеце вельмі мала вернікаў, тады калі да іншых веравызнанняў належаць мільярды людзей. З гэтага вынікае, што Бог будзе прымушаны знішчыць гэтыя мільярды. Госці адказалі, што так не станецца, бо людзі ў канцы аблагаразумяцца і прыстануць да іх і такім чынам выратуюць сваю душу. Выразна змучаны, я ўрэшце спытаў, да якой рэлігіі належалі госці раней. Яны адказалі, што нарадзіліся адвентыстамі, але іх бацькі былі раней праваслаўныя.

У сувязі з тым, што госці гаварылі па-польску, я іх спытаў, чаму сваёй акцыі ў беларускіх вёсках не вядуць па-беларуску. І толькі тут заўважыў я на іх твары збянтэжанасць і недахоп гатовага катэгарычнага адказу. Дабіў я іх заўвагай, што Бог напэўна па-беларуску разумее і трактуе беларускую мову таксама, як усе іншыя мовы свету, дык і прадстаўнікі „адзінай праведнай" рэлігіі павінны прымаць гэта пад увагу.

Малады чалавек па хвіліне апамятаўся і выступіў з гарачай арацыяй аб неабходнасці майго пераходу да адзінай праўдзівай рэлігіі. Калі я ўрэшце ўстаў і выказаў сваю нецярплівасць, госці ўсё цвёрда гаварылі аб неабходнасці пераходу на ўласцівую дарогу. Дайшло да таго, што я сказаў урэшце аб тым, што мушу выехаць у вельмі важнай справе.

Толькі пасля гэтага настырныя госці выйшлі з хаты і пайшлі па маіх Бандарах, агітуючы, прапагандуючы, пераконваючы.

Наколькі мне вядома, ніхто з Бандароў пакуль што не перайшоў у гэтую секту.

Аднак, што не гавары, але такая самаахвярнасць, напорыстасць і дэтэрмінацыя маладых людзей не можа не выклікаць пачуцця зайздрасці. Многія з такіх рыс характару прыдаліся б беларускай моладзі, але ў іншых справах.

**Алесь Барскі**

# ГАРАДЗІШЧАНЕ

(Працяг са стар. 5)

нях 534 га сельскагаспадарчых угоддзяў, у тым ліку 351 га ворыва, 95 га сенакосу і 87 га пашы. У мінулым годзе тут сеялі пшаніцы 39 га, жыта 62 га, ячменю 20 га, аўсу 74 га, садзілі бульбы 61 га і 7 га тытуню. Гадавалі: 352 штукі быдла, у тым ліку 193 дойныя каровы, трымалі 405 свінней, у тым ліку 37 свінаматак, 53 кані і 120 авечак. За 1983 г. гарадзішчане прадалі дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі на 20 мільёнаў 638 тысяч злотых. У вёсцы аж 25 трактараў з камплектамі іншых машын. Самымі выдайнымі з'яўляюцца тут гаспадаркі: Андрэя Гайкоўскага (прадаў дзяржаве прадукцыі на 1 мільён 745 тысяч зл.), Яніны і Мечыслава Гуніцкіх (продаж на 1 млн. 563 тыс. зл), Станіславы і Францішка Буднікаў (продаж на 1 млн. 73 тыс. зл.).

У Гарадзішчанях на 83 гаспадарках жыве 348 чалавек, у тым 21 ва ўзросце 15-18 год, — самая надзейная іх будучыня. А жывуць тут заможна.

**Мікола Гайдук**
Фота аўтара



Станіслаў Лабенец (злева) і Браніслаў Мезянко з Гарадзішчаняў.




* * *

І зноў люблю
Так як калісь
І зноў маўчу
Хаця мая радасць
Не мае граніц
Ах Божа ж мой
Вялікі Божа
Ты сёння мне памажы
Са мною разам крычы
Вачам дай прыгажосць
Вусны мёдам аблі
А сэрцу сэрцу майму
Дай жа крыху любві.

**Ірэна Юрчук**

### ТЫ АБЫЯКАВЫ НА ТВАРЫ

Ты абыякавы на твары,
Людзі імчацца каля цябе.
Ты абыходзіш кагось,
Хтось абыходзіць цябе.

Ты абыякавы на твары,
Ты заўсёды нас цураешся.
Ніхто цябе не затрымае,
Ніхто не падасць табе рукі.

Ты абыякавы на твары,
Заўсёды ад нас аддзяляешся,
І ты вечна гаворыш,
Што шукаеш прыяцеля.

**Дарота Парфенюк**

### ДУША

Я маўчу, стаю, галаву сваю схіляю.
На сэрцы мне цяжка, смутна,
Я цярплю, але слёз не паказваю,
Я маўчу, стаю, галаву сваю схіляю.

Ці ў хаце, ці ў школе, ці ў дарозе
Я ж тая самая, не іншая.
У мяне адно слова, слова
Ці ў хаце, ці ў школе, ці ў дарозе.

Я сяджу, сяджу і думаю
Аб тым, што на душы ляжыць,
Што ўвесь час мяне мучыць, калі
Я сяджу, сяджу і думаю.

**Люся Анхім**

ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

# МІЦЬКА-КАМСАМОЛЕЦ

З **Дзмітрыем Карповічам** пазнаёміўся я даволі даўно, яшчэ ў пачатку 60-ых гадоў. Ён тады ўзначальваў ваяводскую арганізацыю прафсаюзаў, быў членам экзекутывы Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку, а я — толькі што пачынаў сваю журналісцкую працу і, зразумела, адносіўся да яго з вялікай пашанай і прызнаннем.

Крыху пазней, у 1964 годзе дайшла да нас аповесць беларускага пісьменніка з Гродна **Аляксея Карпюка** — „*Пушчанская адысея*", у якой Міцька Карповіч выступае як адзін з галоўных герояў, ён тут начальнік штаба **партызанскага атрада** імя **Кастуся Каліноўскага**, які дзейнічаў у лясах між Каралёвым Мастом і Гарадком, адным словам у гэтых жа самых Ліпніках і Перацёсах, дзе свае сляды партызанскай вайны пакінулі сябры Рамана Марданя і Хведара Парфенюка.

Нічога тады дзіўнага, што, ходзячы сцежкамі партызанскага атрада „Бацькі", часта сутыкаўся я з прозвішчам **Міцькі Карповіча.** Быў ён сувязным у гэтым атрадзе.

— Калі гаварыць шчыра, — заяўляе Дзмітрый Карповіч, — дык Рамана Марданя ў перыяд яго партызанскай службы на Беласточчыне я амаль зусім не ведаў. Памятаю, што ў атрадзе „Бацькі" быў адзін здаравенны, высокі, з барадою па грудзі, плячысты партызан, якога называлі Троцкім. Пару разоў сустракаў яго я на варце, або ля партызанскага вогнішча, калі наведваў гэты атрад. Сувязь трымаў я з камандзірам. Гэтага патрабавалі правілы канспірацыі. З Марданём я пазнаёміўся бліжэй ужо пасля вайны.

— А як у вас наладзілася сувязь з партызанамі? — пацікавіўся я.

— Пачалося гэта ад узрыву аднаго нямецкага эшалона, — адказаў Дзмітрый Карповіч і задумаўся над нечым. — Так, — дакінуў ён у гэтым задуменні, — гэта праўда, што я сваю баявую дзейнасць з гітлераўскімі захопнікамі лічу ад самастужнага ўзрыву нямецкага цягніка, які пусцілі мы пад адхон супольна з нашымі аднавяскоўцамі. Трэба, аднак, вам ведаць, што ўсё распачалося намнога раней, яшчэ ў гады даваеннай панскай Польшчы. Без закалкі ў падпольнай дзейнасці не было б і маёй партызанскай гісторыі.

Дык што ж давайце тады хаця б пакрысе дакранемся да гэтай падпольнай закалкі Дзмітрыя Карповіча, якая, дарэчы, з'яўляецца важнейшай часткай нядаўняй гісторыі нашай роднай зямлі. 60 гадоў таму назад разгортвала тут сваю актыўную дзейнасць **Камуністычная партыя Заходняй Беларусі**, а разам з ёю і **Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі**, які тады, у чэрвені 1925 года, налічваў 2700 членаў (1200 членаў — на свабодзе і амаль 1500 — у турмах). Тады ж, у 1925 годзе, зараджалася будучая масавая прагрэсіўная беларуская партыя — **Беларуская сялянска-рабочая грамада**, якая адкрыла свету

## Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej

Пад гэтым загалоўкам выйшла з друку кніга вядомай даследчыцы беларускага рэвалюцыйнага руху ў даваеннай Польшчы Аляксандры Бергман.

Увайшлі ў яе артыкулы, якія аўтарка друкавала на працягу дваццаці год у розных гістарычных перыёдыках. Змененыя і дапоўненыя, дыхаюць свежасцю і навіной.

Кнігу ў серыі прац Беластоцкага навуковага таварыства выдала Дзяржаўнае навуковае выдавецтва. Пакуль што набыць яе можна ў памяшканні БНТ (вул. Складоўскай-Кюры).

Неўзабаве апублікуем рэцэнзію на кнігу.

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

ЛЕНІК




## ЗАГАДКА СІНЯГА КОЛЕРУ

Птушкі баяцца блакітнага і сіняга колеру. Так выйшла па назіраннях і доследах шведскіх вучоных Х. Плейшара і А. Гольмі. З'явілася магчымасць падаваць птушкам сігналы перасцярогі. Падфарбаванымі хімікатамі апрацавалі расліны: птушкі трымаліся далей ад небяспечнай зоны.

Сіні колер, як заўважана, ненавісны мухам, молі і многім іншым насякомым. Ад яго адыходзяць нават прасцейшыя істоты — амёбы. Падсіненае шкло цяпліцы прыгнечвае расліны. Але вось дзіўна...

Над рачулкай Чармянкай, якая раздзяляе маскоўскія мікраёны Атраднае і Мядзведкава, у самай што ні ёсць сіняй шпакоўні прыпяваючы жывуць шпакі. Нельга сказаць, што выбралі яны яе з-за адсутнасці другой: тут ля кожнага дома па некалькі новых і старых гнёзд.

Аднак самыя першыя ганцы вясны з'явіліся іменна ля сіняй шпакоўні, занятай да таго ж зімовымі пастаяльцамі — верабямі. Выходзіць, што і гэтыя эселыя птушкі таксама аказаліся не з баязлівага племя, але давялося ўсё ж ім уступіць шпаковай пары яе, трэба меркаваць, законнае родавае ўладанне.

Не адно пакаленне шпакоў разляцелася адсюль па беламу свету. А тым часам вучоныя-натуралісты выказалі новае меркаванне: больш птушак не бачыць прадметаў блакітнага і сіняга колеру. Выходзіць, што жывуць нашы шпачкі ў доміку-невідзімцы.

Але справа не толькі ў птушках. Людзям, як мяркуюць вучоныя, не адразу адкрыўся сіні колер. Роскаш успрымання колераў прыходзіць да малых у калыску паступова.

Спачатку ім адкрываюцца жоўты, чырвоны, зялёны і потым ужо сіні колер. А нашы суседзі па эвалюцыі — амаль усе млекакормячыя, як мяркуюць цяпер, наогул не бачаць фарбаў свету: успрымаюць яго чорна-белым. Колеравы зрок адна з самых загадкавых тайн прыроды.

(Працяг са стар 3)

## ПАДЗЯКА СУЧАСНІКАЎ І НАШЧАДКАЎ

ным дзяржаўным архіве Башкірскай АССР ва Уфе, сустракаюцца звесткі аб знаходжанні Чачота ва Уфе пад наглядам паліцыі.

У „Ведамасці аб тых, хто значыцца пад наглядам паліцыі ў горадзе Уфе за майскую трэцць сяго 1830 года“ (з фонду канцылярыі Арэнбургскага грамадзянскага губернатара) ёсць запіс: „Студэнт Іван Фадзееў сын Чачот, перайменаваны ў канцылярыства мінулага 1828 года ліпеня з 14 дня,.. знаходзіцца на кватэры і працягвае служэнне ў канцылярыі пана Арэнбургскага грамадзянскага губернатара, займаецца пісьмаводствам і ад казны ўжо ўтрымання ніякага не мае, а атрымлівае адпаведна працы жалаванне“.

Чачот збіраў этнаграфічныя і фальклорныя матэрыялы і ў ссылцы. Частку з іх ён перасылаў свайму сябру па універсітэту, віднаму манголазнаўцу Восіпу Кавалеўскаму ў Казань, куды той выехаў вучыцца пасля разгрому віленскіх гурткоў. На жаль, матэрыялы загінулі ў час разгрому варшаўскай кватэры Кавалеўскага казакамі ў 1863 годзе. Пра гэта з горыччу пісаў пад старасць Кавалеўскі ўсходазнаўцу В. Грыгор'еву ў пісьме, якое мы знайшлі ў рукапісным аддзеле Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе: „І гэты стос-пісем (Чачота), каля 200 аркушаў, у час разгрому маёй маёмасці ў Варшаве прапаў без вестак. Цяжка, цяжка пра гэта пісаць.“

У 1831 годзе Чачот пераведзены з Уфы ў Цвер, праз два гады ў Лепель (цяпер Віцебскай вобласці) ва ўпраўленне інжынераў Бярэзінскага канала. Толькі ў 1841 годзе ён змог вярнуцца на родную Навагрудчыну, дзе спачатку жыў у вёсцы Далматоўшчына, а потым працаваў бібліятэкарам у багатай бібліятэцы графа Храптовіча ў маёнтку Шчорсы. У 1837-1846 гадах Чачот выдаў шэсць зборнікаў беларускіх народных песень у перакладзе на польскую мову (толькі ў апошнім зборніку песні пададзены ў арыгінальным беларускім гучанні). Чачот апублікаваў больш тысячы песень. У мовазнаўстве Ян Чачот першым даў цікавыя навуковыя нарысы пра беларускую мову, называючы яе самастойным членам славянскай моўнай сям'і. Ён склаў невялікі тлумачальны слоўнік спецыфічнай беларускай лексікі, выказаў першыя справядлівыя думкі адносна будучага беларускага правапісу. Ён заклікаў даследчыкаў узяцца за складанне грунтоўных слоўніка і граматыкі беларускай мовы, лічачы, што „хто б узяўся за гэтую справу, заслужыў бы падзяку не толькі пакалення, якое цяпер жыве, але яшчэ большую ў будучыні“.

Памёр Чачот 11 жніўня 1847 года ў Друскеніках (цяпер Друскінінкай Літоўскай ССР) у крайняй беднасці. Сябры пахавалі яго ў суседнім сяле Ротніца.

**Валянцін Грыцкевіч**

горкую долю беларуса ва ўмовах палітычнага ладу панскай Польшчы.

Дзмітрый Карповіч апынуўся ў цэнтры гэтага руху амаль 17-гадовым хлапчуком. Было гэта ў 1936 годзе. Жыў ён тады разам з бацькамі ў вёсцы **Грыбаўцы.** Гэта за станцыяй Валілы і Гарадком, недалёка ад шашы ў Баброўнікі. Быў другім сынам у васьміасабовай сям'і **Юльяны і Лукаша Карповічаў.**

— Участачак пясчанай зямлі і шасцёра заўсёды галодных дзяцей! — уздыхае Дзмітрый Карповіч. — Проста цяжка цяпер уявіць вам, як жылося тады нашым сялянам!

Ці цяжка? Я таксама з даваеннага пакалення. Крыху памятаю, як у той час жылося беларусам у вёсцы. Мой бацька таксама не лічыўся ў багацеях. Як і Лукаш Карповіч сядзеў ён на няпоўным участку зямлі. Толькі дзяцей у нас было напалавіну менш, чым у Карповічаў.

— Калі я чую сёння наракання на крызіс у Польшчы, на нястачу і розныя цяжкасці жыцця, — сцвярджае Дзмітрый Карповіч, — дык думаю, што ўсіх гэтых агітатараў ды самародных рэфарматараў, якія зараз муцяць чыстую ваду і разводзяць антыдзяржаўную шуміху, не зашкодзіла б для аздараўлення хаця б на месяцаў пяць пасадзіць на такія ўмовы жыцця, у якіх штодзённа жылі нашы бацькі, у якіх праходзілі і нашыя маладыя гады. Калі хапала сухога хлеба ці бульбы з капустай, або нейкага супу з кусочкам мяса раз у тыдзень, пераважна ў нядзелю, дык за гэтакае шчасце трэба было ўжо ад усяго сэрца дзякаваць Богу.

Сапраўды, мяса ў супольнай сямейнай місцы, успамінаю і я, — знаходзілі мы толькі ў святочныя дні. Кусочак нейкай „шпыркі“ маці ўкладала бацьку ў торбачку толькі тады, калі ён адпраўляўся да нейкай цяжкой работы ў полі ці ў лесе. Мы задавальняліся малочнай заціркай, або бульбай з квасам ці халадцом. Гэта з таго часу запомнілася мне адна руская прымаўка, якую часта за лепшым абедам любіў паўтараць наш бацька:

— *Вкусные гусиные лапки!*

— *А ты их едал?*

— *Да нет, мой дядя видал, как барин едал!*

У наваколлі Грыбаўцаў вялікіх „барынаў“ не было, але панам лічыўся ўжо звычайны ляснік, бо ад яго залежала, ці возьме каго на працу ў лесе, ці не, ці дазволіць зарабіць дзень якую залатоўку, ці прыдзецца шукаць дапамогі ў „жыда“, каб пазычыў „на працэнт“, або „пад застаў“, бо інакш пакаморнік адбярэ за падатак апошні жончын дыван або і апошнюю карову...

Апавядала мне **Надзея Дудзік**, народная паэтэса з Гарадка, што быў у іх адзін гэтакі палясоўшчык, які гнаў дзяўчат працаваць на сваім полі і не плаціў за гэта ані граша, а тая, што адмовілася, дык паляцела к чорту і з дзяржаўнай работы ў лесе. Трэба было цярпець і нізка кланяцца, каб не патраціць панскую ласку.

— У нас нават найбагацейшыя сяляне цярпелі голад у дажніўны перыяд, — сцвярджае Дзмітрый Карповіч. — Каб раздабыць крыху грошай на неабходныя пакупкі і дзяржаўныя падаткі, людзі шукалі працы ў лесе.

Сапраўды, у гэтым наваколлі больш дрымучага лесу, чым ураджайнага поля. Амаль суцэльнай сцяной цягнецца ён ад Беластока, Супраслі, Васількова і Заблудава аж за Гарадок і Міхалова, дзе над рэчкай Нарвай спалучаецца з Белавежскай пушчай. Гэты лес адны называюць **Беластоцкай**, а іншыя — чамусьці **Кнышынскай** пушчай, хаця з Кнышына ў Беласток яшчэ амаль столькі, колькі з Беластока ў Гарадок. Спрадвеку гэты лес карміў, апранаў і даваў сховішча беларускім сялянам. Гэта тут хаваліся ад царскіх карнікаў паўстанчыя атрады **Валерыя Урублеўскага і Кастуся Каліноўскага**, гэта недзе тут у нейкай леснічоўцы гэты ж Кастусь Каліноўскі складаў сваю **„Мужыцкую праўду“** — першую беларускую газету, якая заклікала беларускіх сялян —

(Працяг на стар. 8)

## Куток практычных ведаў

### СОЛЬ

Соль — прыправа. Гэта ўсім вядома. Аднак мала хто ведае. што соль патрэбна і ў многіх іншых выпадках жыцця. Напрыклад, сукенкі з цёмнага шоўку, тафты, набіўнога шоўку захоўваюць свой бляск і колер, калі іх прапаласкаць у падсоленай вадзе: на вядро вады 250 грамаў солі.

Пасля мыцця адзенне трэба папрасаваць. Прас вельмі добра ачышчаецца, калі павадзіць ім па жмені солі, пасыпанай на чысты аркуш паперы.

Соль, насыпаная тоўстым слоем на дно прыгарэлай пасудзіны, дазваляе праз некалькі гадзін лёгка ачысціць яе. Нажы навастрыць лягчэй, калі паўгадзіны патрымаць іх у салёнай вадзе.

### БУЛЬБА

Іржавую кухонную бляху лёгка ачысціць разрэзанай сырой бульбінай, мачаючы яе ў дробны пясок.

Сляды брудных пальцаў здымаюць з пафарбаваных дзвярэй, пацёршы іх палавінай варанай бульбіны.

Шкляныя забруджаныя бутэлькі (за выключэннем бутэлек ад карасіну) лёгка адмываюцца вадой з цёртай або дробна нарэзанай бульбай. Пасля працяглага і моцнага ўстрасання бутэльку палошчуць чыстай вадой.

Бульбу ўжываюць і пры мыцці шарсцяных рэчаў. У залежнасці ад іх размеру прамываюць ад аднаго да трох кілаграмаў бульбы, дзяруць на тарцы, выціскаюць. У падагрэтай вадкасці, атрыманай пасля выціскання бульбы, намочваюць рэчы. Пры гэтым злёгку труць тканіну толькі ў вельмі забруджаных месцах. Не выкручваючы, дватры разы палошчуць рэч у цёплай вадзе. Пры апошнім паласканні падліваюць паўшклянкі воцату. Выціснутую, нявыкручаную рэч загортваюць у чысты ручнік, сушаць у халаднаватым месцы. Прасуюць неперасушанай, вільготнай.

Нарэзаныя скрылёчкі бульбы ў алеі паглынаюць пах рыбы, якая ў ім смажылася.

## ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

# ЦІ ЎСЁ ВАМ ВЯДОМА ПРА МЁД?

У адзін зімовы вечар я пацікавіўся кніжкай пра пчаліны мёд. Яна аказалася настолькі займальнай, што я рашыў з некаторымі звесткамі пазнаёміць чытачоў нашых „Таямніц".

Вучоныя даказваюць, што пчолы існуюць на свеце ўжо 56 мільёнаў год. Ёсць доказы, што мёд ведалі першабытныя людзі. Значыць, без аніякага перабольшвання, мёд можна назваць самым старажытным, самым вядомым і самым усебаковым спажыўным і лячэбным дабрадзействам прыроды. Цікава, што на працягу некалькіх тысяч год людзі адкрываюць усё новыя і новыя таямніцы мёду.

Аднак, калі я пачаў гаворку пра мёд з маімі сябрамі, аказалася, што яны нямнога ведаюць пра яго.

— Мёд, — кажуць, — салодкі, добры на прастуду і хваробы горла.

Гэта ўсё, што яны змаглі сказаць.

Так, значыць нашыя дзяды ды бабулі вельмі мала перадалі нам з таго, пра што чулі ад сваіх бабулек і прабабулек. Але дзякуючы цяперашнім сродкам масавай інфармацыі мы гэта можам хутка паправіць.

Што ж гэта такое — мёд? Каротка кажучы: гэта перапрацаваны пчоламі і своеасабліва сферментаваны нектар кветак. Як добра сказана: нектар кветак. Але адна кветка, напрыклад, баркуну (nostrzyka) змяшчае ў сабе 0,2 міліграма нектару, ліпы — 0,2-0,7 мг, маліны — 4-20 мг. За адзін раз пчала можа прынесці ў вулей каля 20-40 мг нектару. Каб атрымаць 100 грам мёду, пчала павінна сабраць нектар амаль з мільёна кветак. А каб атрымаць 5 кілаграмаў мёду? Ну, палічыце самі. Лічба, якую вы атрымаеце, яшчэ раз пераканае вас у пчалінай працавітасці. Але тое, што прынясе пчала працаўніца, яшчэ не мёд — гэта ўсё пакуль што яшчэ нектар. Каб атрымаўся мёд, другая пчала павінна гэтую капельку прапусціць праз свой страўнік яшчэ сама меней 120-240 разоў. Гэта неабходна для таго, каб выпарыць ваду, якая знаходзіцца ў нектары. Яе там 75-80%, а ў мёдзе — усяго 16-20%. Апрача гэтага ў страўніку пчалы нектар узбагачаецца арганічнымі, абясшкоджваючымі ферментамі і іншымі рэчывамі. Гэтак нарыхтаваны і запячатаны ў сотах мёд яшчэ даспявае 3-4 тыдні. Недаспелы мёд мае ў сабе многа вільгаці, хутка кісне і траціць свае лекавыя і смакавыя якасці.

Адрозніваюць мёд кветкавы і падзіевы. Кветкавы мёд, як правіла, называюць яшчэ ў залежнасці ад раслін, з якіх пчолы збіраюць нектар. Падзіевы мёд атрымоўваецца пры зборы пчоламі салодкіх выдзяленняў некаторых насякомых (тлі, лістаблошак, чарвяца і інш.), а таксама мядовай расы (падзі), якая выступае на лісцях дуба, клёну, таполі, бярозы, ляшчыны і іншых раслін пасля спякотнага дня. Падзіевы мёд больш цёмны, менш пахучы і мае ў сабе больш мінеральных рэчываў, чым кветкавы. Яго выкарыстоўваюць галоўным чынам у спажывецкай прамысловасці.

У мёдзе знаходзіцца каля 60 розных рэчываў, у іх ліку вуглеводы (глюкоза і фруктоза), мінеральныя рэчывы, мікраэлементы, шэраг арганічных кіслот, вітаміны, а таксама антыбіётыкі, якія ўзмацняюць згубнае ўздзеянне мёду на многія мікраарганізмы. Пчаліны мёд добра захоўваецца. Пры даўжэйшым захоўванні мёд з вялікай колькасцю глюкозы гусцее і ператвараецца ў густую масу. Сцукраваны мёд лёгка пераўтварыць у вадкі, але пры гэтым неабходна памятаць, што мёд нельга награваць вышэй 60° С. У тэмпературы вышэй 60° С наступае разбурэнне ферментаў і мёд траціць многія каштоўныя якасці. Тыя гатункі мёду, якія змяшчаюць у сабе многа фруктозы, не гусцеюць. Часам пры захоўванні мёду выяўляюцца два пласты: знізу — скрышталізаваны, а зверху — падобны на сіроп. Гэта паказвае на няспеласць мёду, на яго высокую вільготнасць. Такі мёд не прыгодны для доўгага захоўвання. Мёд нельга трымаць у вільготных і адначасова цёплых (11-19° С) месцах. У такіх варунках мёд можа закісаць.

Падчас захоўвання мёд не траціць сваіх антыбактэрыйных уласцівасцей. Абеззаражваючае ўздзеянне мёду са старажытных часоў выкарыстоўваецца для кансервавання харчовых прадуктаў. Найбольш вядомым было кансерваванне мёдам сметанковага масла. Дзеля гэтага трэба дакладна вымыць начынне — найлепш гліняны гаршчок або шкляны слой — змазаць знутры мёдам, укласці сцісла, без пластоў паветра, масла і зверху заліць мёдам пластом на 2-3 сантыметры. Так закансерваванае масла можна захоўваць пры тэмпературы 18-20° С на працягу 6 месяцаў. Таксама кансервуюць і іншыя прадукты. У старажытнасці, напрыклад, мёдам кансервавалі рэдкую дзічыну, якую прывозілі з адлеглых мясцовасцей. Залітае мёдам мяса захоўвае сваю свежасць, смак і колер.

Абеззаражваючыя ўласцівасці мёду выкарыстоўваюцца пры лячэнні запаленчых працэсаў у поласці рота, пры лячэнні ранаў і язваў.

У народнай медыцыне хваробы рота лечаць настойкай з лісця шалфею (szałwii), у якую дабаўляюць крыху мёду. Захаваліся звесткі, што для лячэння ранаў егіпцяне прымянялі мёд яшчэ 3500 год таму назад, а 2500 год таму назад грэчаскі лекар Гіпакрыт у кнізе „Аб ранах" змясціў рэцэпты на лячэнне мёдам.

Падчас II сусветнай вайны прымянялі для лячэння доўга не зажываючых ранаў і язваў такую мазь: пчалінага мёду 80 грам, рыбінага тлушчу — 20 г, ксераформу — 3 г. Мазь на-

(Працяг на стар. 11)

(Працяг са стар. 7)

# МІЦЬКА-КАМСАМОЛЕЦ

„дзецюкоў" да барацьбы „за волю і долю". *„Трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі да косамі там, дзе дабіваюцца волі да праўды,* — пісаў **„Яська, гаспадар з-пад Вільні"** ў гэтай жа *„Мужыцкай праўдзе"* ў чэрвені 1863 года, калі ў Польшчы ўжо паўгода вялі паўстанцы вайну з царскімі захопнікамі.

Багатая змагарскімі традыцыямі гэтая зямля! Нездарма Аляксей Карпюк, родам з вёскі **Страшава**, што за Гарадком, напісаў у сваёй аповесці *„Пушчанская адысея"*:

*„Відаць, каб на шашы Беласток-Ваўкавыск не высыхала кроў, то дарога гэтая ўся ёю заплыла б."*

Ад сябе я толькі яшчэ дабаўлю, што хапіла б і адных слёз ды поту, якія выліліся на гэтую дарогу, каб яе цалкам размыць.

— З нашай сям'і, — кажа Дзмітрый Карповіч, — у лес на заробак ездзілі бацька са старэйшым сынам Янкам. Працавалі ад позняй восені да вясны.

Выязджалі яны з хаты надосвітку, а вярталіся ўжо познім вечарам. Дома за „гаспадара" аставаўся Міцька. Трэба было даглядаць жывёлу, нарэзаць сечкі, нарыхтаваць дроў, нанасіць вады.

А школа? Хто б звяртаў на яе ўвагу! Школа патрэбная панскім дзецям, якія нічога іншага не маюць да работы. Міцька Карповіч самавольна, аднак, не прапускаў урокаў. Зімою, калі ў некаторых хатніх занятках выручалі яго сёстры і малодшыя браты, хадзіў ён у школу амаль кожны дзень. Горш было з навукай вясной і восенню, калі пачыналіся неадкладныя палявыя работы. На школу аставалася тады два-тры дні ў тыдзень.

— І так вялікага грамацея тут з цябе не зробяць! — заяўляў бацька, калі Міцька прасіўся на ўрокі.

На месцы, у вёсцы, знайшліся свае настаўнікі, сярод якіх самым лепшым аказалася штодзённае жыццё. Трэба было толькі адкрытымі вачыманазіраць за яго праявамі. Міцька выгнаўся на рослага, амаль у два метры, кемлівага хлапчука, які на ляту засвойваў розныя навінкі. У вёсцы і па навакольных дарогах пачалі паяўляцца лістоўкі, калі-некалі трапляла ў рукі нейкая газета, якой нельга было атрымаць у афіцыйным продажы, часта ў час сяброўскіх сустрэч хтосьці закінуў слова аб камуністах і камуністычнай дзейнасці, асабліва тады, калі рабочыя гарадоцкіх фабрык наладжвалі святкаванні Першамая, або змагаліся з фабрыкантамі за ўтрыманне зарплаты, або тады, калі ў лесе між Супраслю, Гарадком і Саколкай рабочыя наладжвалі забастоўкі, калі прыходзілася бараніцца ад штрэйкбрэхераў. Гэта ўсё выклікала цікавасць і ахвоту, каб самому ўключыцца ў актыўную дзейнасць.

— У Грыбаўцах жыў **Ян Цярэшка,** — успамінае Дзмітрый Карповіч. — Я ведаў, што ён „палітычны", як у нас тады гаварылася, значыць, што ён прыналежаў да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У КПЗБ быў таксама і наш недалёкі сусед — **Уладзімір Карпюк** са Страшаўскіх хутароў. Вось яны і прыцягнулі мяне ў Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі.

Сталася гэта, як я ўжо сказаў, у 1936 годзе. Разам з Міцькам Карповічам **камсамольскую ячэйку** ў Грыбаўцах складалі яго сябры: **Янка Цярэшка, Юльян Ігнацюк** і яшчэ адзін хлопец, прозвішча якога Дзмітрый Карповіч не змог прыгадаць, здаецца, **Міхась Адамовіч.** **Міцьку пайшоў тады семнаццаты год жыцця,** адкрываючы ў яго лёсе зусім новыя старонкі. Варта нам пазнаёміцца з іх зместам. Адну з гэтых старонак пастараюся адкрыць ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

# Зорка

## Старонка для дзяцей


Уладзімір Волкаў

## У БАБУЛІ ДУНІ

Бабуля Дуня жыла адна. У лесе. У трох кіламетрах ад нашай вёскі. Ёй не раз прапанавалі перабрацца ў вёску, але яна наадрэз адмовілася. „А ягады, а грыбкі, а траўкі мае лекавыя на каго я пакіну?“ — звычайна казала яна.

Аднойчы мая мама паслала мяне наведаць адзінокую бабульку.

Калі я прыйшоў, бабулька Дуня сядзела на ганку. Побач з ёй стаяў кошык з суніцамі.

Бабуля падзякавала за гасцінцы і развяла рукамі.

— А вось я, даражэнькі, нават у хату цябе запрасіць не магу. — Яна аглянулася назад і камусьці сказала: — Ну, доўга ты яшчэ нада мною старою будзеш насміхацца? Бачыш — госць у мяне, а ты свой дурны наравісты характар паказваеш?

Я ў здзіўленні глядзеў на бабулю Дуню, не разумеючы, на каго гэта яна сварыцца. І толькі пасля таго, калі яна крэкчучы, устала і са злосцю шарпнула на дзвярах замок, я зразумеў, што яна сварыцца на замок. І ледзь не фыркнуў ад смеху.

— Бабулька, дайце мне ключ, я спрабую адчыніць.

— І-і-і, не мучся, даражэнькі. Калі ён сам не захоча, ні за што не адкрыецца. Ды ты садзіся, ягадак паеш. Пасядзім, памаўчым, можа, ён і адумаецца.

І я зноў ледзь не рассмяяўся ўголас, але стрымаўся і, сеўшы побач, спытаў:

— Як жа вы тут адна жывеце?

— Гэта чаму ж адна? Зусім не адна. Вось хоць бы гэтага злосніка ўзяць. — І яна зноў пачала сварыцца на замок: — І доўга думаеш трымаць нас на ганку? Ну, добра, на мяне ўзлаваўся, а ён пры чым тут? Я ж павінна госця пачаставаць, чайком напаіць, варэннем пагасцяваць, а ты што робіш? Я ж да цябе з усёй душой. Памятаеш, майстар новы замок прывозіў — хопіць, кажа, мучыцца. Дык я ад таго новага адмовілася! Цябе ж пакінула. А, выходзіць, памылілася!

І тут у замку нешта хруснула, ключ вываліўся, дужка скрыпнуўшы, адкінулася, і замок упаў на падлогу.

— Ну, вось, даражэнькі, я ж казала: адумаецца.

Я ва ўсе вочы глядзеў на ўпаўшы замок. І тут, прызнаюся, мне было ўжо не да смеху. Я з нейкім страхам увайшоў у хату.

У хаце было чыста і прасторна. Пахла травамі. Яны віселі пучкамі на сцяне. Голасна цікаў вялікі гадзіннік. У абудове з разнымі завітушкамі. Я падышоў бліжэй і пачаў іх разглядваць.

— Яшчэ татка на шлюб падарыў. І ўсё ходзіць. А вось час адбівае, калі ў настроі.

— Як гэта ў настроі?

— Вельмі проста. Вось у цябе, калі на душы цяжка — пакрыўдзіў хто ці сам каго няхочучы пакрыўдзіў, нябось, хмурны ходзіш? А калі лёгка, весела — песні спяваеш? Так?

— Так, — згадзіўся я.

— Вось і гадзіннік мой такі ж... Калі ў настроі, адаб'е, якая гадзіна, а калі не — прамаўчыць або прабубніць нешта, быццам праз сябе.

Гаворачы, бабуля Дуня наліла самавар, які стаяў ля печкі, кінула ў яго сасновых шышак.

Хутка самавар загудзеў і пусціў тонкі струменьчык пары.

— Вось і добра, зараз чай піць будзем. Раскажаш, што ў вас новага. На, налій сюды кіпяточку. — І бабуля падала мне чайнічак з заваркай.

Я нахіліўся да самавара. Павярнуў кранік. Кранік паварач-


(Працяг на стар. 10)


Анатоль Астрэйка

## МАРОЗ

Зіма, зіма! І снег пасцелены.
І ўмерзлі крыгі ў берагі.
Ляжаць, нібы ў абрусе
беленым.
Лясы, палеткі і лугі.

Ка мне ў акно галінай голаю
Бяроза стукае ўначы,
І трубяць музыкай вясёлаю
У комін ветры-трубачы.

Мароз мацнее і не меншае
Яго нязмераны прастор,
І скрозь на дрэвы іней вешае,
Пляце на вокнах свой узор.

Усё навокала замецена
Бялюткім венікам зімы,
Мароз прыбраў, як майскай
квеценню,
Сады, палеткі і дамы.

І хоць гаворыцца, бязрукі ён,
А па лясах, па льдзінах рэк
І па платах так моцна стукае,
Нібы абухам чалавек.

Зіма, зіма! І снег пасцелены,
І ўмерзлі крыгі ў берагі.
Ляжаць, нібы ў абрусе беленым,
Лясы, палеткі і лугі.



Фота Я. Чэрнякевіч

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Яраслаў Пархута

### САРАКАНОЖКА

Паклікала аднойчы Страказа ў госці Сарананожку. Тая новую сукенку надзела, прычоску модную навяла, самыя прыгожыя завушніцы пачапіла. Выскачыла за веснічкі, а суседка Муха ўсміхаецца:

— Хіба мода новая
паяўляецца
Басаног паляваць
адпраўляецца!...

Азірнулася Сараканожка і бачыць: сапраўды, босая! У спешцы абуцца забылася! Крутнулася туды, крутнулася сюды — чобатаў ні пад лаваю, ні ў запечны, ні пад печчу. Дзеці, гуляючы, расцягнулі! Села на парог, бядуе, як быць, што рабіць? А Муха кажа:

— Вунь на ўзлессі два
яноты
Шыюць яловыя боты.
Ты ім нізка пакланіся —
Мо і чобаты сшыць
узяліся б.

Пабегла Сараканожка на ўзлессе:

Яноты-браткі,
Пашыйце чабаткі!..
— Што ты! Што ты? —
Адказалі яноты. —
Мы рады прыняць заказ,
Ды столькі хрому
не знойдзецца ў нас.
Прасі камароў,
Хай заколюць сорак валоў,
Шкуры здзяруць,
Гарбара наймуць
І калі гарбар
Вырабіць добры тавар,
То, так і быць,
Згодзімся сшыць.

Сараканожка да камароў:

— А мае вы камарыкі —
Гвоздзікамі тварыкі!
Бядзе-гору пасабіце!
З папасу валоў ганіце.
Клічце да двара
Лепшага гарбара,
Тэрмінова хай вырабіць
хрому —
Босай жа не выйдзе
з дому!..

Камары паспагадалі. У сцельку ледзь не разбіліся, а зрабілі ўсё, што прасіла суседка. І яна зноў пабегла на ўзлессе:

— Ах, яноты-браткі,
Шыйце хутчэй чабаткі!
У госці даўно пазнюся —
Заўтра за ўсё разлічуся!

Яноты прынялі заказ. І хоць на адзін капыл шылі, — чобаты атрымаліся як улітыя. Узрадавалася Сараканожка, пакруцілася ў абноўцы перад люстэркам ды бегам да Стракзы на палянку. А там госці даўно разышліся.

Муха-суседка здзекліва дзынкнула:

— Мо-од-ні-ца!..

Пятро Сушко

### МЯДЗВЕДЗЕВЫ СНЫ

У заснежаным бары,
Пад шчаку падклаўшы лапу,
Спіць мядзведзь у гушчары
На імху,
Як на канапе.
Да вясны жыхар лясны
Не вылазіць з-пад пярыны.
Усю зімку
Бачыць сны
Пра салодкія маліны.

## Паглыбляй свае веды

### „ВЕГА“ — ПАДВОЙНЫ РОБАТ-ДАСЛЕДЧЫК

15 снежня з касмадрома Байканур стартавала ракета. Яна панесла ў неба апарат, якому далі назву „Вега-І“. „ВЕ...“ — таму што апарат будзе даследаваць планету Венеру, а „...ГА“ — таму што частка гэтага апарата паляціць насустрач камеце Галея.

Калі „Вега“ наблізіцца да Венеры, адбудзецца раздзяленне частак апарата. У адной з частак у спецыяльныя балоны будзе пададзены газ, напоўніцца вялікі шар, і гэты шар дыяметрам у тры метры, абсталяваны прыборамі, накіруецца ў атмасферу Венеры. Паказанні прыбораў, пры дапамозе радыёперадатчыка будуць перадавацца на Зямлю. Дзякуючы гэтым сігналам вучоныя на Зямлі змогуць зрабіць канкрэтныя вывады аб умовах на Венеры, нашай Ранішняй зорцы.

Потым апарат „Вега“ зробіць пасадку на планеце у месцы, вызначаным вучонымі, і возьме пробу грунту. У сярэдзіне апарату ёсць маленькая лабараторыя, дзе будзе даследаваны склад грунту Венеры. Дадзеныя аб грунце Венеры будуць перададзены таксама на Зямлю.

Не менш цікавая задача стаіць і перад другой часткай ракеты з апаратам для даследавання каметы Галея. Змяніўшы напрамак свайго лёту, ён паляціць на сустрэчу з гэтай каметай.

Камета Галея рухаецца па вельмі выцягнутай арбіце вакол Сонца, то аддаляецца ад яго да найдалейшых планет. Адзін такі „лёт“ працягваецца каля 76 гадоў. Вучоны Галей першы здагадаўся, што тры каметы, якія наглядаліся з Зямлі праз роўныя прамежкі часу — гэта адна і тая ж нябесная падарожніца. У пачатку нашага стагоддзя Зямля перасекла хвост каметы Галея. Але тады не было такіх разумных прыбораў, як цяпер, і даследаванняў ніхто не вёў. На гэты раз насустрач камеце паляціць адразу некалькі апаратаў. А ў іх ліку і „Вега“. Робат-даследчык сфатаграфуе камету з блізкай адлегласці. Мяркуюць, што ядро каметы акружана воблакам з пылу, дробных ільдзінак і каменняў. Каб яны не пашкодзілі апарат, яго адпаведна забяспечылі.

У стварэнні аўтаматычных станцый „Вега“ апрача савецкіх вучоных прымалі ўдзел спецыялісты Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Польшчы, Чэхаславакіі, Аўстрыі, Францыі і ФРГ.

Для большай надзейнасці былі зроблены дзве аднолькавыя станцыі. Адна з іх палацела раней да Ранішняй зоркі, а другая — некалькі дзён пазней.

Даследаванні Венеры будуць зроблены ў чэрвені 1985 года, а фатаздымкі каметы Галея мы ўбачым у сакавіку 1986 года.

**Паводле А. Івахнава.**

## Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 75/12, кв. 8. Анжэла Шыбалава, вучаніца 7 класа.

* * *

БССР, 220036, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 2, кв. 46. Марына Якаўлева, вучаніца 7 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 86, к. 1, кв. 31. Святлана Цфасман, вучаніца 7 класа.

* * *

БССР, 220104, г. Мінск-104, вул. П. Глебкі, 82, кв. 158. Наташа Наталевіч, вучаніца 5 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 13, кв. 48. Люба Макатун, вучаніца 3 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 23, кв. 25. Наташа Халадзінская, вучаніца 6 класа.

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 51, кв. 49. Кацярына Аніска, вучаніца 6 класа.

* * *

СССР, 346562, Ростовская обл., Усть-Донецкий р-н, ст. Мелиховская, ул. Интернациональная, 46, кв. 7. Бурда Лене. 14 год.

* * *

СССР, 343400, Донецкая обл., г. Артёмовск, ул. Чайковского, 15, кв. 17. Иваненко Лиле. 12 год.

* * *

СССР, 353990, г. Новороссийск, пос. Цемдолина, ул. Фрунзе, 8а, Бимеловой Зареме. 15 год.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Безымянная, дом 16, кв. 31. Ларисе Грудиной. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.



**Марэк Мартынюк, Уршулька Іванюк і Эмілька Мартынюк — дзеці з вуліцы Гвардыі Людовай у Бельску. Даслала Яўгенія Мартынюк.**

(Працяг са стар. 9)

### У БАБУЛІ ДУНІ

ваўся і туды і сюды, а вада не лілася.

— Не дае? І не дасць. — Бабуля задаволена ўсміхнулася. — Таксама з характарам. Гэта ён на стол просіцца. Пачуў, што я не адна, вось яму і хочацца на стале пакрасавацца.

Я дапамог бабулі паставіць самавар на стол.

— І што, цяпер можна наліваць?

— Цяпер — калі ласка!

Я падставіў чайнік, павярнуў кранік, і вада палілася.

— Ну, як чаёк? Духмяны? Ды ты з мядком яго або з варэннем. А можа са свежымі ягадамі? Памойму — з ягадкамі — яшчэ смачней.

Я выпіў тры кубкі. І з мёдам, і з варэннем, і з ягадамі. І раптам ці то ад паху траў, ці то ад ціхага, убаюківаючага голасу бабулі Дуні, а хутчэй ад усяго разам у мяне пачалі зліпаацца вочы. Я глядзеў на бабулю Дуню, а мне здавалася, што гэта мая родная бабуля і што я сяджу ў сваёй хаце. А тут наогул нейкія цуды пачалі дзеяцца: я глядзеў на самавар, а ён, скорчыўшы міну, высунуў доўгі чырвоны язык і з майго спода́чка лізнуў варэнне.

— Э-э-э, даражэнькі, ды цябе ж зусім размарыла. З непрывычкі гэта. Ад ляснога паветра. — Бабуля пад руку вывела мяне з-за стала, падвяла да ложка: — Вось тут і засні трошкі, а там пад вечар я цябе дадому адвяду...

Я прываліўся да падушкі, або, наадварот, падушка navalілася на мяне. Але тут — бом! бом! бом! — забіў гадзіннік. Ды так голасна, урачыста, з нейкім пераразвонам званочкаў, што я абудзіўся.

— Цішэй ты! — пачуў я шэпт. — Месяц, мабыць, маўчаў, а цяпер валіць надумаў. Не бачыш, хлопец у мяне. Змарыла яго, а ты бач, разышоўся!

І біццё гадзінніка пачало заціхаць, потым зусім знікла. Толькі званочкі працягвалі тоненька звінець...

## Вясёлы куточак

Нічыпар Парукаў

### МУРЗЫ

Міша і Пеця поўзаюць па зямлі на карачках, куляюцца праз галаву. Рукі, твары і адзенне іх у брудзе і пыле.

— Гаў-гаў-гаў! — кідаецца па-сабачаму на прахожых Міша.

— Кві-кві-кві! — папіскае тоненькім галаском, нібы парсючок. Пеця.

Міма праходзіла сівая бабулька Васіліса. Убачыла іх, замурзаных брудных, і кажа:

— Гэта вам, мурзам, ужо надакучыла хадзіць па-людску, ня́гах, дык вы пачалі па-сабачаму ды па-свінячаму гойсаць? Га?

Хлопчыкі ўсталі на ногі і моўчкі слухаюць натацыю бабулькі Васілісы.

— Калі ж гэтак будзеце і надалей гойсаць на карачках, у вас абавязкова вырастуць морды і хвасты сабачыя ды свінячыя, — строга папярэдзіла яна хлопчыкаў.

— Бабуся, глянь, мы можам бегаць і па-чалавечаму, — усклікнуў Міша і прамчаўся з усіх ног па вуліцы туды і назад.

Пеця прарабіў тое ж самае.

— Але ўсё роўна вы ўжо на парсюкоў сталі падобныя, — сказала бабуля сур'ёзна.

— А што ж нам такое трэба зрабіць, каб зноў стаць падобнымі на хлопчыкаў? — спалохана спытаў Міша.

— А вы ўважліва пагля́дзіце адзін на аднаго і адразу самі здагадаецеся, — адказала сівая чараўніца і пайшла сваёй дарогай.

* * *

— Міхаська, што ты так доўга робіш у кухні? — пытаецца бабуля ўнука.

— Вару яйкі ўсмятку.

— Але ж ты ўжо так доўга варыш?

— Так, бабуля, але шкарлупка ўсё яшчэ цвёрдая.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



**Паглядзі на пеўн'ка. Які ён злосны! Хтосьці разбіў яечка. А хто? Спалучы кропачкі з лічбамі ад 1 да 25 простымі лініямі і тады даведаешся. Малявала Ірына Цыбік-Лемеш.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## ІНСТРУКТАЖ

Марына,
Прыгожая і сціплая дзяўчына,
Насіла ўжо нявесты званне —
Была, як кажуць, на выданні.
І вось аднойчы штосьці
Свякруха будучая кліча яе ў госці.
А маці і давай інструктаваць,
Як з кім сябе трымаць.
— Глядзі ж, мая ты донька,
Не вельмі захапляйся,
Але ад прапаноў не адмаўляйся, —
Сказала напаследак маці.
І вось Марына ў жаніха ў хаце.
— Ды не саромейся, праходзь смялей, —
Яе спрабуюць падбадзёрыць.
Праз час каторы
І самавар з'явіўся на стале,
А да яго — і розная закуска.
— Мо чаю шкляначку, дачушка?
П'юць чай, паволі гутарка цячэ.
— Мо шкляначку яшчэ?
Другую п'е, тут трэцюю, чацвёртую
падносяць.
Не скажаш жа, што досыць,
Хоць і абрыдла гэтае ёй зелле.
Калі ж да пятае дайшло, усклікнула
ў адчаі:
— Мо гэтым стаўлю крыж я на вяселлі,
Але піць болей не магу я чаю!

---

Інструкцыя — магутнейшая рэч!
Яна — каб не звярнуў налева ці направа.
Ды часам і яе адкінуць можна прэч,
Калі змянення вымагае справа.

**Уладзімір Правасуд**



— А чаго ён дражніцца?!






З чаго смяюцца суседзі.

## НУ І ЛЮДЗІ

Званок у дзвярах. На парозе незнаёмец:

— У вас у ваннай кран цячэ? — пытае ён у гаспадара.

— Не...

— А тут жывуць Задрыпкоўскія?

— Не, яны яшчэ тры месяцы таму назад выехалі адсюль, — тлумачыць гаспадар.

— Ну і людзі! Сантэхніка выклікаюць, а самі ўжо тут не жывуць...

## ПАШКАДАВАЎ

Лекар павучае задрыпанца:

— Два грамы нікатыну забіваюць каня.

— Няўжо?! І навошта толькі даюць коням курыць...

## АПРАЎДАЛАСЯ

Дзяўчына дакарае знаёмую маладку:

— Я ж прасіла, каб вы нікому не гаварылі, што я засватана.

— А я й не гаварыла, я толькі спытала куму, ці яна ведае пра гэта.

## ШТО З РУКАМІ...

Прыйшоў кум Пятро да кума Рыгора ў госці. Вось выпілі па адной, закусілі. Пачалася размова. Гаспадар як стаў расказваць госцю пра сваіх сыноў, то пра іхніх жонак, ды пра ўнукаў, — не перaслухаеш. Пятро круціўся-круціўся, а потым кажа:

— Слухайце, куме, а што ў вас з рукамі?

— А што? — збянтэжыўся той. — Нічога...

— Дык чаму ж вы не наліваеце?!



Мукі ананімшчыка: ёсць што напісаць, але няма на каго!..

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Адкуль у вас узнікла ідэя замаруджанага здымання гэтай сцэны? — пытаюць рэжысёра.

— Вы памыляецеся, скорасць здымкі звычайная. Проста ў эпізодзе ўдзельнічае шатландзец, які вымае са свайё кішэні партманет, каб расплаціцца за частаванне сябраў у рэстаране.

*

— Два мае сябры залажыліся, хто з іх далей высунецца з акна.

— Ну, і...

— ...Нечакана адзін з іх выйграў...

*

— Ты ведаеш, што Петэрсан трапіў у бальніцу?

— Дзіўна! Дык толькі ўчора вечарам я бачыў яго з чароўнай бландзінкай!

— Яго жонка таксама бачыла...



— Пане галоўны лекар! Вам неабходна самому змерыць пульс пацыента, таму што ў мяне і ў фрокен Ольсэн атрымліваюцца розныя паказанні!

З „Весніка Задрыпоніі"

## СЕРВІС

Тэлеатэлье г. Таратарава ўвяло новую форму абслугоўвання ўладальнікаў тэлевізараў. Пакуль тэлевізар у рамонце, да яго ўладальніка штодзённа прыходзяць супрацоўнікі тэлеатэлье і расказваюць змест прайшоўшых тэлеперадач.

## ГЭТА ЦІКАВА

Аўстралійскія страусы бегаюць са скорасцю да 170 км у гадзіну, таму ім няма калі лётаць.



Страшны праціўнік.

## ТАЛІЯ

Свіння рашыла пахудзець.

— Чым я горшая за іншых дам? — гаварыла свіння Авечцы. — І мне мроіцца тонкая талія. Захачу і будзе ў мяне талія, хай сабе і не такая, як у Асы, але ж і не горшая, чым у Цялушкі...

Праз некаторы час Авечка зноў сустрэла Свінню і ледзь яе пазнала: Свіння стала разы ў два таўсцейшая.

— А як жа талія? — запытала праставатая Авечка. — Ці ты больш не марыш пра яе?

— Ну што ты, сяброўка, — адказала Свіння. — Мару ды яшчэ як? Але неяк так атрымліваецца, што пра талію я звычайна думаю пасля абеду...

**Язэп Таўшчэзны**



# Курёзы

## МОДА

У свеце нястрымна пашыраецца мода на ўтрыманне хатніх чацвераногіх сяброў. Паводле паведамлення часопіса „Юнайтэд стэйтс ньюс энд Уорлд рыпорт", за апошнія дзесяць год колькасць сабак і кошак у амерыканскіх сем'ях павялічылася з 60 да 92 мільёнаў. І іх не проста смачна і сыта кормяць. Для чацвераногіх пестуноў заводзяць раскошны гардэроб — звышмодныя касцюмы, фракі, сукенкі і нават... футра.

Адводзяцца мэбляваныя пакоі з дыванамі, мяккімі крэсламі і канапамі, з ваннымі і туалетамі. А ў матэлі штата Ілінойс Прэры Нью сабакі маюць нават асобныя... тэлефоны для „размовы" з гаспадарамі. У горадзе Бастон у рэстаране абсталявана спецыяльная зала для сабачых абедаў з самага разнастайнага меню і адзін абед каштуе да 50 долараў. На плошчах амерыканскіх гарадоў, у парках і скверах вылучаны пляцоўкі для выгулу сабак і кошак і створаны ўсе камунальныя выгоды.




Чым больш абмежаваны чалавек, тым большая яго высакамернасць.